Прачытай сам і перадай другому.

# Народная Воля

№ 70 (4528)

4 верасня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі— чакаем!*

ЗВАРОТ РЭДАКЦЫІ

## «Народную Волю» будзем выдаваць разам!

Шаноўныя прыхільнікі свабоднага слова! На жаль, блакада газеты з боку ўлад працягваецца: па-ранейшаму забаронены доступ як да друкарні, так і да эспедыцый “Белпошты” і “Белсаюздруку”, якія займаюцца распаўсюджваннем перыядычных выданняў.

Вось ужо пяты нумар “Народнай Волі” мы адтыражавалі пад Масквой. Які далейшы лёс? Калі да панядзелка не загарыцца “зялёнае святло” ў Беларусі, то нумар за аўторак з’явіцца толькі пры адной умове – калі на рахунку рэдакцыі будуць фінансавыя сродкі для пералічэння іх расійскай друкарні.

Заўважым: выхад кожнага нумара “Народнай Волі” без магчымасці значную частку тыражу рэалізоўваць праз кіёскі нясе рэдакцыі велізарныя страты. Да таго ж трэба яшчэ дадаць немалыя расходы на транспартныя і іншыя паслугі.

Выйсце адно: **давайце, шаноўныя чытачы, выдаваць “Народную Волю” разам!** Вось нашы банкаўскія рэквізіты для пералічэння грошай на падтрымку газеты.

**УНП 100961759**
**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**в «Приорбанке» ОАО, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**
**Адрес банка: 220030 г.Мінск, вул.Камсамольская, 13.**

Таксама можна грошы пералічыць праз АРІП. Для гэтага трэба зайсці ў сістэму, выбраць **«СМІ»**, потым літару **«Н»** – **«Народная Воля»** – **«Добровольные взносы»** і зрабіць плацеж.

Адгукніцеся, паважаныя сябры, калі ў Вас ёсць хоць нейкая магчымасць.

Сёння, як ніколі, у Беларусі павінна гучаць **СЛОВА ПРАЎДЫ**, слова ў абарону правоў людзей, якія хочуць жыць у вольнай краіне, калі ўлады не будуць фальсіфікаваць вынікі галасавання падчас прэзідэнцкіх выбараў, калі вяршэнства закона стане нормай для ўсіх.

**Разам уратуем «Народную Волю»!**

***Рэдакцыя.***

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

# Пераводзяць стрэлкі

Ці заўважылі вы, як дружна высокае начальства стала дзяўбці пра новую Канстытуцыю? Маўляў, гэта найлепшае выйсце з цяперашняга палітычнага крызісу.

Насамрэч, я лічу, гэта хітры кручок.

Згадайма: пра новы Асноўны закон рэзка загаварыў Аляксандр Лукашэнка, калі 17 жніўня яго пачалі прэсінгаваць рабацягі на Мінскім заводзе колавых цягачоў. Ён прапанаваў: маўляў, спачатку давайце прымем Канстытуцыю на рэферэндуме, а потым ужо, калі хочаце, зладзім новыя выбары. І ўжо тады гэта выглядала як спроба саскочыць з непрыемнай тэмы, бо рабацягі крычалі: “Сыходзь!”

2 верасня задуму наконт новай Канстытуцыі рэкламаваў у Маскве міністр замежных спраў Уладзімір Макей. Ідэю падтрымалі ўжо ягоны расійскі калега Сяргей Лаўроў, сам Уладзімір Пуцін. Відавочна, што гэты план пераводу палітычных стрэлак узгоднены з Крамлём, які ў вострым канфлікце між беларускім рэжымам і масай грамадзян адназначна стаў на бок рэжыму. І Мінск, і Крэмль зацікаўлены задушыць беларускую рэвалюцыю.

Заўважце, што ні Лукашэнка, ні Макей, ні іншыя важныя чыноўнікі нічога не кажуць ні пра змест меркаванай канстытуцыйнай рэформы, ні пра яе тэрміны, ні пра тое, як хутка могуць адбыцца потым новыя выбары. Гэта толькі ўмацоўвае назіральнікаў у думцы, што беларускае кіраўніцтва проста шукае спосаб выкруціцца з цяперашняй крытычнай для яго сітуацыі.

Задума палягае ў тым, каб падмяніць парадак дня. Народ, які выходзіць на вуліцы, ставіць рубам пытанні пра сыход Лукашэнкі, вызваленне палітвязняў, расследаванне гвалту з боку сілавікоў, а галоўнае – пра новыя, сумленныя выбары як мага хутчэй. А людзям хочуць запудрыць мазгі, каб яны адступілі. Начальства хоча спакваля перавесці фокус грамадскай увагі на вялацякучы працэс абмеркавання паправак у Канстытуцыю.

У вуснах дзяржаўных дзеячаў загучала нават слова “дыялог”. Але з кім? Створаную на ініцыятыву Святланы Ціханоўскай Каардынацыйную раду, ужо прыдушаную крымінальнай справай, ад гэтага дыялогу відавочна хочуць адсекчы. Між тым менавіта за Ціханоўскую галасавалі многія з тых, хто выходзіць на вуліцу, менавіта яе мільёны людзей лічаць фактычнай пераможцай выбараў.

Лукашэнка ж цвердзіць пра магчымы дыялог з нейкімі прадстаўнікамі працоўных, студэнцкіх ды іншых калектываў. Ну і плюс каліва “вменяемых” людзей з апазіцыі (чытай: кішэннай). То бок гаворка ідзе пра нейкі імітацыйны “круглы стол” з адфільтраванай лаяльнай публікай. Звышзадача – перавесці стрэлкі, збіць незадаволеных грамадзян з панталыку, дачакацца спаду пратэстаў, цалкам узяць сітуацыю ў краіне пад кантроль.

Што ж да сутнасці меркаваных паправак у Асноўны закон, то, ведаючы натуру А.Лукашэнкі, чакаць сапраўднай дэмакратызацыі, як мне падаецца, не выпадае. 26 гадоў ён толькі падграбаў уладныя паўнамоцтвы пад сябе. З якой радасці ён стане зараз імі шчодра дзяліцца? Ну мо адшкадуе трохі дзеля блезіру. Напрыклад, дадуць парламенту права зацвярджаць пару якіх міністраў. Каліва паўнамоцтваў кіроўная вярхушка можа дэлегаваць на месцы, каб спіхнуць з сябе адказнасць за рэгіянальныя праблемы.

Хтосьці мяркуе, што ў новай Канстытуцыі будзе прапісаны нейкі механізм транзіту ўлады. Што ж, магчыма, з’явіцца, напрыклад, пасада віцэ-прэзідэнта, на якую можна будзе прызначыць свайго чалавека. Такі фокус у 2016 годзе зрабіў у Азербайджане Ільхам Аліеў, прычым на пасаду віцэ-прэзідэнта паставіў сваю жонку.

Уявіць жа, што Лукашэнка прапіша для сябе статус нейкага бацькі нацыі, гэтакага беларускага елбасы, вельмі цяжка. Так, у Казахстане Нурсултан Назарбаеў саступіў прэзідэнцкае крэсла, сышоў на іншую пазіцыю. Але ж хіба Лукашэнка здолее збоку назіраць, як нехта сядзіць у ягоным былым крэсле? Надта сумняваюся. Ды і ні ў якія гарантыі недатыкальнасці ён відавочна не верыць.

У кожным разе няма сумневу, што Лукашэнка зробіць такую Канстытуцыю, якая будзе пасаваць асабіста яму, а не той масе беларусаў, што хочуць сапраўдных перамен у краіне.

Невыпадкова дзейны кіраўнік так апалчыўся на прапанову Віктара Бабарыкі вярнуцца да Канстытуцыі 1994 года. Стаў палохаць вяртаннем да галечы і бандытызму ліхіх 90-х. Хоць сутнасць прапановы ў іншым – вярнуць абмежаванне прэзідэнцтва двума тэрмінамі ды падзел уладаў. Атрымліваецца, што гэтыя рэчы Лукашэнку зусім недаспадобы.

І потым, па якіх правілах будзе зладжаны канстытуцыйны рэферэндум? Па правілах пані Ярмошынай? Такі хакей нам зусім не патрэбны.

І дзе гарантыя, што Лукашэнка потым хутка запрапануе новыя выбары? А мо ён, наадварот, абнуліць свой чарговы тэрмін прэзідэнцтва, як гэта было пасля рэферэндуму 1996 года.

Карацей, уся сутнасць манеўру з Канстытуцыяй у тым, каб збіць цяперашнюю хвалю пратэстаў, авалодаць сітуацыяй. І потым пад шумок імітацыйнага абмеркавання могуць распачацца метадычныя рэпрэсіі супраць усіх, хто “гнаў хвалю”.

Тут напрошваецца гістарычная аналогія. Рускі цар, напалоханы рэвалюцыяй 1905 года, пайшоў быў на пэўныя саступкі, але потым, калі ўдалося суцішыць вулічныя выступленні, запрацаваў канвеер расправаў з рэвалюцыянерамі. Якуб Колас тады напісаў горкі верш:

*Канстытуцыю далі,*
*Адчынілі дзверы,*
*І... ў астрог нас павялі,*
*І таўкуць без меры.*

Дык вось баюся, каб у нашым выпадку гісторыя не паўтарылася.

З НАГОДЫ



Мітынг перад польскім пасольствам у Мінску.

# Разлік на дурняў

Дзіўныя мітынгі адбыліся днямі перад польскімі дыпламатычнымі місіямі ў Мінску і Гродне. Некалькі дзясяткаў чалавек, якія бралі ў іх удзел, быццам пад дыктоўку выкрыквалі адны і тыя ж лозунгі: “Любімую не аддадзім”, “За Бацьку”, “Змагароў – у Польшчу” і гэтак далей. Калі хто-ніхто з журналістаў спрабаваў пацікавіцца, які сэнс хаваецца за гэтымі фразамі, чуўся адказ: “Польшча стала прэтэндаваць на нашы землі”.

Вось так – суседняй краіне, народ якой вельмі прыязна ставіцца да нас, беларусаў, лукашэнкаўскія “хунвэйбіны” яўна па ўказцы з “Чырвонага дома” навешваюць ярлык ворага. Без усялякіх падстаў. Вы чулі, каб нехта з польскага кіраўніцтва альбо з вядомых палітыкаў, грамадскіх дзеячаў казаў, што іх краіна прэтэндуе на нашы землі, на тую ж, скажам, Гродзенскую вобласць? Ды ў Польшчы нікому з сур’ёзных людзей гэта і ў галаву не магло прыйсці. А калі нейкі вар’ят, магчыма, жартам нешта ляпнуў, то ці мала ў нас сваіх, як кажуць, чокнутых?..

Няцяжка здагадацца, з якой мэтай выказваецца аб пагрозе з захаду А.Лукашэнка. Няўжо ён думае, што вось такі яго пасаж нармальныя людзі ўспрымаюць як рэальнасць: *“Вы видите эти заявления о том, что если Беларусь распадется, то Гродненская область отойдет Польше. Они уже об этом в открытую говорят, спят и видят. Ничего у них в этом плане не получится, это я знаю определенно”*?

Прымітыўнае палітыканства дзеля адной мэты: адцягнуць увагу шырокай грамадскасці ад таго, што шляхам брутальных фальсіфікацый падчас выбараў былі ўкрадзены мільёны галасоў грамадзян, з-за чаго вось ужо чацверты тыдзень праходзяць масавыя пратэстныя акцыі па ўсёй краіне.

Заўважым: пазіцыя польскага ўрада і міжнародных колаў вядома ўсім, хто хоча пра гэта ведаць. Вось выказванне, напрыклад, кіраўніка НАТА Ена Столтэнберга: *“Усе краіны – саюзнікі НАТА падтрымліваюць суверэнную і незалежную Беларусь. У НАТА няма вялікай арміі ў рэгіёне. Таму любая спроба выкарыстаць гэта як нагоду для падаўлення мірных дэманстрантаў абсалютна неапраўдана”.*

**Віктар КАРПОЎСКІ.**

ЧУЛІ?

## 853 работнікі Гродзенскага мясакамбіната накіравалі зварот у Палату прадстаўнікоў, Генпракуратуру і абласны Савет

У сваім лісце яны адзначылі, што выбары 9 жніўня прайшлі з парушэннямі, што выклікала пратэсты па ўсёй краіне. Патрабаванні калектыву Гродзенскага мясакамбіната наступныя:

– выконваць заканадаўства Беларусі;

– прызнаць выбары 9 жніўня несапраўднымі, правесці новыя адкрытыя выбары з празрыстым падлікам галасоў, прысутнасцю незалежных назіральнікаў;

– адстаўка Аляксандра Лукашэнкі праз страту даверу, главы ЦВК Лідзіі Ярмошынай, главы МУС Юрыя Караева;

– спыніць гвалт у дачыненні да грамадзян Беларусі;

– расследаваць усе выпадкі, калі людзей незаконна затрымлівалі і білі, і пакараць вінаватых;

– пакараць вінаватых у фальсіфікацыях падчас выбараў.

Аўтары звароту паставілі ўмову: калі іх патрабаванні не выканаюць у самыя кароткія тэрміны, яны пакідаюць за сабой права на забастоўку.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# «Правосудие» в балаклаве

Сергей ВАГАНОВ

Пишу, еще не зная, чем закончится судебный марафон над шестью белорусскими журналистами, задержанными… нет, схваченными караевскими громилами 1 сентября. Повторяю, суд над журналистами… То есть над людьми, несущими народу, обществу, миру правду.

Пока суды раз за разом отправляют дела на так называемую доработку, прекрасно понимая, что подсудны не журналисты, выполнявшие свой профессиональный долг, а люди в балаклавах, которые чинят произвол, угрожающий здоровью и жизни.

Это ли не цинизм, когда, не зная, как выкрутиться из беззакония, предлагается грамотеям в погонах правильно расставить в протоколах запятые и подогнать их так, чтобы не было даже малейшей щели?! А как иначе сделать из журналистов, выполнявших свою работу, «участников несанкционированных массовых мероприятий»? И в каталажку, в каталажку…

А пока в суды поступают необоснованные и неграмотные протоколы, не позволяющие вынести решения, всё, на что способны люди в балаклавах, – это злобная месть. Ничего, молодые, и на Окрестина поночуют, в камерах, где взывают к справедливости тени сотен палачески избитых в страшные ночи 9–12 августа…

Почему же вопреки всем международным, всечеловеческим и даже нашим, белорусским, законам и правилам режим, называющий себя государством, действует как бы от его имени столь грубо, цинично, не скрываясь?

Стоп! Скрываясь.

Ему кажется, что если некое, используемое в роли заказного свидетеля существо по имени Александр Ковалев нацепит на голову балаклаву, то народ его не узнает, а судья, имя которому История, не посмотрит в его лживые, за прорезями, глаза.

Посмотрит. Узнает.

**P.S.** Одна из журналисток, ранее проведшая в ожидании суда бессонную ночь в милиции, рассказала мне еще об одной особенности *такой* ночи. И у меня родились следующие строки на белорусском языке.

## Журналістка

Яе ўсю ноч трымалі ў пастарунку.
Прапанавалі каву і зефір:
«Частуйцеся, вышэйшага гатунку!
Не тое, што акрэсцінскі чыфір…
Якое глупства ваша галадоўка!
Ці ж вам не трэба набываць вагу?!
Цукерку пакаштуйце –
вось «Кароўка»…
Не хочаце? А вы праз не магу…»

Ёй сапраўды не шкодзіла б паесці.
У вочы поўз вясёлкавы туман.
Падумала: а як жа моўчкі бэсціць
Яе звышклапатлівы капітан!
Падрыхтавана здымачная група.
Люстэркам ззяе зоркі аб’ектыў…
«Ну з’еш! Ну з’еш! –
малілі зрэнкі тупа. –
З’ясі – хутчэй на волю выйдзеш ты…
Не псуй для тэлебачання карцінку.
БТ, РТ развешаны кручкі.
Не ўсё ж пра гвалт амонаўскі
пласцінку
Табе круціць, пра кулі і дручкі…»

Яе ўсю ноч трымалі ў пастарунку.
Карцінку спадзяваліся займець.
Ды толькі хто вышэйшага гатунку,
Ніколі ім ужо не зразумець.

ГОЛАС НАРОДА

Рабочыя Мазырскага НПЗ:

# «Няма даверу да дзейнай улады»

*Больш за тысячу працаўнікоў ААТ «Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод» не пагаджаюцца з вынікамі прэзідэнцкіх выбараў і абураны дзейнасцю сілавых структур. У адкрытым звароце яны выказваюць салідарнасць з народам Беларусі, калектывам ААТ «Нафтан» ды іншых прадпрыемстваў краіны і заяўляюць пра «недавер да дзейнай улады», паколькі «не адчуваюць сябе ў бяспецы ў сваёй уласнай краіне». Пад зваротам паставілі подпісы 1186 чалавек.*

### «Не прызнаём вынікі гэтых выбараў»

Нафтаперапрацоўшчыкі адзначаюць, што прэзідэнцкая кампанія 2020 года праведзена са шматлікімі парушэннямі і правакацыямі з боку ўлады: арышты кандыдатаў, абмежаваная прысутнасць незалежных назіральнікаў, непразрысты падлік галасоў, фальсіфікацыі, запалохванні членаў участковых выбарчых камісій.

*«Мы не прызнаём вынікі гэтых выбараў, як і многія грамадзяне нашай краіны»,* – гаворыцца ў звароце.

Пасля выбарчай кампаніі нязгодныя з вынікамі выбараў мірныя пратэстоўцы патрапілі пад гвалт з боку супрацоўнікаў сілавых структур. Падпісанты лічаць, што адказнасць за гвалт над мірнымі грамадзянамі ляжыць не толькі на сілавіках, але ў першую чаргу на кіраўніцтве краіны. Правы і свабоды грамадзян Беларусі знаходзяцца ў небяспецы з прычыны неразумнай палітыкі кіраўнікоў краіны, парушэння Канстытуцыі і фальсіфікацыі выбараў.

### Лукашэнку і Ярмошыну – у адстаўку

Работнікі НПЗ патрабуюць адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі і Лідзіі Ярмошынай, выступаюць за правядзенне новых выбараў з сумленным і празрыстым падлікам галасоў, з удзелам міжнародных і незалежных назіральнікаў.

Яны асуджаюць гвалт з боку сілавікоў у дачыненні да мірных грамадзян, патрабуюць сумленнага расследавання ўсіх выпадкаў гвалту з прыцягненнем да адказнасці вінаватых.

Таксама падпісанты з НПЗ настойваюць на падачы дэпутацкіх запытаў па фактах затрымання і збіцця сілавікамі працаўнікоў завода, у тым ліку актывіста суполкі «Страна для жизни» Руслана Парфёнава.

Мазырскія нафтаперапрацоўшчыкі акцэнтуюць увагу на тым, што не могуць далучыцца да агульнанацыянальнай забастоўкі, паколькі не хочуць рызыкаваць эканамічнай стабільнасцю прадпрыемства. Разам з тым яны просяць іншыя прадпрыемствы канцэрна «Белнафтахім» падтрымаць іх і іхнія патрабаванні.

Ад генеральнага дырэктара ААТ «Мазырскі НПЗ» людзі патрабуюць забяспечыць свабоднае выказванне сваіх пазіцый – як грамадзянскіх, так і працоўных у калектывах, спыніць ціск кіраўніцтва на работнікаў падчас прыняцця рашэння аб выхадзе з прафсаюзаў або ўступленні ў іх.

Падпісанты настойваюць таксама на правядзенні сустрэчы з як мага большай колькасцю працаўнікоў прадпрыемства для тлумачэння пытанняў, адлюстраваных у адкрытым звароце. Вынікі сустрэчы патрабуюць апублікаваць у адкрытым доступе.

### «Гендырэктару ніхто ніякіх дакументаў не адрасаваў»

Намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Мазырскі НПЗ» па ідэалагічнай працы, персанале і сацыяльным развіцці **Генадзь Цецярук** пацвердзіў «Народнай Волі», што дырэкцыя ведала і не перашкаджала збору подпісаў пад зваротам.

*«Канкрэтна генеральнаму дырэктару Паўлаву ніхто ніякіх дакументаў не падпісваў і не адрасаваў. Паўтару: мы ведалі, што людзі збіралі подпісы. Каму яны хацелі перадаць зварот, незразумела. Але што яны ад кіраўніка прадпрыемства патрабавалі нейкай рэакцыі, такога не было»,* – кажа Цецярук.

Дакумент, пад якім сабрана больш за тысячу подпісаў, азаглаўлены так: «Адкрыты зварот работнікаў ААТ «Мазырскі НПЗ» да народа Рэспублікі Беларусь, прадпрыемстваў канцэрна «Белнафтахім», органаў заканадаўчай і выканаўчай улады».

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Рэквіем па Купалаўскім

*Нягледзячы на тое, што па ўсім Мінску працягваюць вісець афішы Купалаўскага тэатра з юбілейным рэпертуарам на верасень-кастрычнік, тэатральная каса квіткоў не прадае. У ёй можна набыць хіба чорныя цішоткі са светлым профілем Купалы, якія ўспрымаюцца адназначна – як жалоба па знішчаным тэатры.*

Не зачыненым часова на месяцдругі, як тлумачыць Міністэрства культуры, а менавіта знішчаным. Бо тэатр – гэта не будынак, не зала з урадавай ложай і не абсталяваная суперсучаснымі механізмамі сцэна. Тэатр – гэта найперш акцёры і рэжысёры. А яны – 63 чалавекі! – сышлі з Купалаўскага на знак салідарнасці са сваім дырэктарам Паўлам Латушкам, якога звольніў сваім загадам міністр культуры Юрый Бондар. Шэранькі чыноўнік, нікчэмны кіраўнік у даручанай яму сферы, без лішніх роздумаў падпісаў паперу аб фактычнай ліквідацыі тэатра, за якім 100-гадовая гісторыя.

Нават фашысты, акупаваўшы Мінск у 1941 годзе, не знішчылі галоўны тэатр Беларусі, і ён дзейнічаў, і на яго сцэне ставілася беларуская і сусветная класіка. А Бондар знішчыў. Атрымліваецца, што ён горшы за акупантаў. Бо Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы – гэта станавы хрыбет беларускай культуры, люстэрка душы беларускага народа. І вось знайшоўся пустадомак у міністэрскім крэсле, які тупнуў абцасам па гэтым хрыбце і плюнуў у гэта люстэрка. А ў разбураны тэатр на месца зволненых акцёраў і рэжысёраў прыслаў свайго намесніка з пракуратарскімі паўнамоцтвамі, харэографа па адукацыі Валерыя Грамаду.

Што ён "наградзіць" у апусцелым, пазасталым без духу, будынку тэатра? Кім, якім штрэйкбрэхерам заменіць былога мастацкага кіраўніка, бліскучага рэжысёра Мікалая Пінігіна, чыімі спектаклямі "Тутэйшыя", "Ідылія", "Пінская шляхта" захаплялася ўся Беларусь?

Пінігін, рэжысёр еўрапейскага маштабу, без працы не застанецца. Адночы яго ўжо звальнялі з Купалаўскага – з распасцёртымі абдымкамі беларуса прыняў таді Таўстаногаўскі тэатр у Санкт-Пецярбургу. На цэлых дзесяць гадоў. І гэта была велічэзная страта для тэатральнай Беларусі.

Адносна нядаўна да беларускай улады дайшло: зроблена памылка. Майстра ўгаварылі, вярнулі на радзіму. Ён з імпэтам узяўся за справу і – зноў прыйшоўся "не ко двору". З боку Мінкульта гэта падвойнае свінства, але, як выглядае, там не дужа перажываюць за ўчыненае.

А каго Бондар-каманда бачыць на месцы геніяльнага Віктара Манаева? Ён, народны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і дзвюх Дзяржаўных прэмій Беларусі, увогуле незаменны. Незаменны! Бо гэты акцёр – нацыянальны скарб краіны. Я добра помню, як на спектаклі з яго ўдзелам валам валіла публіка, каб пасмяяцца і адначасова паплакаць (так!) над яго няшчасным Мікітам Зноскам у "Тутэйшых" (о, як ачышчальна дзейнічаў гэты шэдэўральны спектакль на тысячы беларусаў!), каб паабурацца яго станавым прыставам Кручковым у "Пінскай шляхце" (як жа пазнаваліся ў тым спектаклі нашы сучасныя суды!), каб чарговым разам зладзіць авацыю яго самахоць пакінуўшаму трон каралю Ліру (зноў жа, як трапна гэта шэкспіраўская трагедыя накладалася на беларускую рэальнасць)…

Без Манаева я проста не ўяўляю Купалаўскага тэатра. Бондар з Грамадам, відаць, уяўляюць. Ды яны, вобразна кажучы, шнуркі на манаеўскіх чаравіках завязваць мусілі б ды падмятаць ягоную грымёрку. А тут штампанулі акцёру ў працоўную кніжку – "звольнены".

На БТ, адкуль сышлі сумленныя журналісты, улада тэрмінова выпісала наймітаў з Расіі. У Купалаўскі не выпішаш – без ведання беларускай мовы. Відаць, будуць шукаць кадры па правінцыйных тэатрах. Не факт, што знойдуць. А калі і знойдуць, то і дзясятак гэтых штрэйкбрэхерак не заменяць звышабаяльную Зою Белахвосцік – народную артыстку ў трэцім пакаленні (унікальная з'ява ў гісторыі айчыннага тэатра). Яе Паўлінку запомнілі некалькі пакаленняў. Але і яна мусіла звольніцца.

"А чаго, чаго ж захацелася ім?" – чую я голас Янкі Купалы з набытай у тэатральнай касе жалобнай цішоткі. І адказваю Івану Дамінікавічу яго ж словамі: "Людзьмі звацца!" Так, звацца людзьмі.

Купалаўцы цераз вуліцу не кідалі камяні ў вокны размешчаных па суседстве Адміністрацыі прэзідэнта, не скандзіравалі з тэатральнага балкона экстрэмісцкіх лозунгаў. Увесь іх "экстрэмізм" палягаў у наступнай заяве: "Мы, купалаўцы, з болем глядзім на тое, што адбываецца ў нашай краіне. Мы паважаем закон і правы чалавека, але кожны дзень жывём, як на фронце. Мы супраць тэрору і гвалту, мы супраць крыві ў нашай краіне…"



З падобнай па танальнасці, ураўнаважанай заявай (дыпламат жа) выступіў і дырэктар тэатра Павел Латушка. Што ў іх словах не так? Гвалт і тэрор на вуліцах беларускіх гарадоў, развязаны сілавікамі ў чорных масках, бачылі мільёны. У фальсіфікацыях на выбарчых участках публічна прызналіся самі старшыні і члены падліковых камісій. У Мінск сярод белага дня былі ўведзены бранятанкавыя войскі…

Сотні тысяч грамадзян Беларусі сказалі сваё рашучае "Не!" хлусні і гвалту. Сказалі і купалаўцы. І ўлада ў адказ закрыла іх тэатр, іх дом, іх свяцілішча.

Калі ўлада выступае супраць такога "не", то, атрымліваецца, яна – за? За гвалт, за тэрор, за кроў на вуліцах?

І як сумленнаму чалавеку пры такой уладзе жыць? Ды яшчэ калі яна сама сябе штодня пад'юджвае на яшчэ большы тэрор, на яшчэ большую кроў?

Месца такой уладзе – у апраметнай, і абавязак кожнага сумленнага чалавека – выкласці ёй туды дарожку ружамі. Другога тут не дадзена. Ці ты – на баку дабра, ці на баку гарылападобных чорных чалавечкаў, што працягваюць бясчынстваваць на нашых вуліцах, затрымліваючы ў аўтазакі ўсіх без разбору.

Перад закрыццём Купалаўскага тэатра галоўнакамандуючы ўсімі – чорнымі, зялёнымі і шэрымі – чалавечкамі ў краіне паабяцаў купалаўцам "поўную свабоду". Маўляў, хай гастралююць па свеце і зарабляюць сабе на жыццё.

Вось ужо сапраўды, як у той прыказцы, волас сівее, а галава шалее. Усё ж Нацыянальны тэатр – не аматарскі вандроўны тэатрык. На тое ён і Нацыянальны, бо патрэбны нацыі, і нацыя, а не Лукашэнка, яго ўтрымлівае. Са сваіх падаткаў. Так ва ўсім свеце, і беларуская дзяржава тут не выключэнне.

Бяда наша ў тым, што паміж нацыяй і Нацыянальным тэатрам (увогуле ўсёй нацыянальнай культурай) стаў надзелены ўсеахопнай уладай чалавек, які нацыянальную складчыну – падаткі – выкарыстоўвае па-свойму – як Папандопала дзяліў нарабаванае рыззё ў фільме "Вяселле ў Малінаўцы". Гэта – на сілавыя структуры, гэта – на ўласную ахову, гэта – на ўтрыманне шаснаццаці (!) рэзідэнцый, гэта – на падтрымку занепалых агракалгасаў, а гэта (што засталося) – на нацыянальныя тэатры і астатнюю культуру.

Вось я думаю: калі б амапаўцы атрымлівалі заробак купалаўцаў, яны выйшлі б на сваю доблесную службу – дубасіць мірных грамадзян? Наўрад ці. Атрымаўшы заробак, як у тэатры, яны тут жа аддубасілі б свайго галоўнакамандуючага…

Сярод зволненых з Купалаўскага артыстаў – заслужаныя і народныя. У тым ліку і тыя, хто атрымаў званні з рук таго самага галоўнакамандуючага. Ну, так ужо выбудавана сістэма, што ўсе дзяржаўныя заахвочванні праходзяць праз яго рукі.

І галоўнакамандуючы не змог схаваць крыўду, выказаўшы яе ва ўласцівай яму хамаватай манеры: маўляў, як яны маглі пайсці супраць, "я ж іх выкарміў левай цыцкай". Пакінуўшы па-за ўвагай тую абсалютна недарэчную "цыцку", я хачу запытацца: а што, атрыманае званне абавязвае да нейкага пажыццёвага рукацалавання?

Вунь у нас у вёсцы сусед быў. Адзінокі п'яніца, у гаворцы праз слова нецэнзуршчына, але ён трымаў каня і араў усім соткі. Людзі і дзячылі яму – хто пляшкай, хто апольцам сала, хто рублём. А потым той п'янтос-працаўнік чалавека забіў, свайго ж аднавяскоўца... Нядаўна з турмы вярнуўся. Дык як да яго цяпер людзі павінны адносіцца: з ранейшай удзячнасцю ці з нейкай сялянскай пагардай – як да забойцы?

Галоўнакамандуючы за ўсе 26 гадоў свайго камандавання, кажуць, усяго пару разоў быў у Купалаўскім тэатры. Хоць ад тэатра да яго ранейшага рабочага месца – сто метраў, у абедзенны перапынак мог бы спектакль паглядзець. Толькі не цікавілі яго тыя спектаклі. А вось пратэст супраць відавочных фальсіфікацый і гвалту зацікавіў імгненна. Вынік – 63 звольненых, ад патрыярха беларускай сцэны Аляксандра Падабеда, які верай, праўдай і талентам служыў Купалаўскай сцэне амаль паўстагоддзя, да маладзенькай акцёркі Яўгеніі Адаменка, якая прыйшла ў тэатр на пачатку жніўня…

І – ні кроплі раскаяння за ўчыненае ў вачах пагромшчыкаў. Наадварот, такое адчуванне, што яны вось-вось націгнуць на твары чорныя маскі і пойдуць граміць астатнія тэатры, якія асмеліліся выказаць салідарнасць з калегамі-купалаўцамі.

Пра маштабы, якое спрабавала супрацьстаяць таталітарнай уладзе, напісаны сотні кніг, зняты сотні кінафільмаў. Мне ж прыгадаўся невялічкі верш пісьменнікаантыфашыста Бертольда Брэхта, чые п'есы неаднойчы ставіліся ў Купалаўскім. Перакладзены на беларускую мову Аляксеем Зарыцкім, ён пра той цемрашальскі час, калі на плошчах Германіі адбываліся аўтадафэ – палалі вогнішчы з забароненай літаратуры.

*Калі загадалі нацысты спаліць*
*Кнігі са шкодным зместам,*
*Адзін гнаны паэт*
*(з самых лепшых),*
*Прачытаўшы спіс спаленых,*
*жахнуўся,*
*Чаму яго кнігі забыты.*
*Акрылены гневам,*
*Ён напісаў ліст да тых,*
*у каго ўлада.*
*"Спаліце мяне! –*
*Пісаў ён крылатым пяром. –*
*Спаліце мяне!*
*Не зневажайце мяне!*
*У спіс уключыце мяне!*
*Хіба я ў сваіх кнігах*
*Не пісаў шчырую праўду?*
*Чаму ж вы ставіцеся да мяне,*
*як да лгуна?*
*Я загадваю вам:*
*Спаліце мяне!*

Калі ласка, не папракайце купалаўцаў за дружна напісаныя заявы аб звальненні, якія па сутнасці сваёй нагадваюць просьбу нямецкага паэта: "Спаліце мяне!". З іх боку гэта мужны і своечасовы ўчынак, гэта, калі хочаце, іх развітальны спектакль перад закрыццём сезона. Спектакль чалавечай годнасці і праўды ў час, калі па краіне проста коціцца цунамі хлусні і беззаконня.

А на іншыя спектаклі гледачы масава здаюць квіткі. Засмучаная касірка складае іх у стосікі і слухае, як нехта з экрана мабільніка чытае выказванне аднаго са звольненых акцёраў, Алега Гарбуза, пра тое, што немагчыма патушыць пажар на балотным тарфяніку – агонь хаваецца пад зямлёй.

Так, беларускае балота ўмее не толькі тапіць, але і гарэць. Сіла ў ім абудзіцца вялікая. Там палыхне, там засмокча – толькі бурбалкі пойдуць. Нездарма ў народзе гаварылі: ціхая вада грэблі рве. Адной такой грэблі, скіданай з дзяржаўнай знявважлівай хлусні, не далі ўмацавацца купалаўцы.

Упэўнены: яны яшчэ вернуцца ў свой родны тэатр. Вернуцца пераможцамі – пад авацыі, як і належыць вяртацца героям.

**Міхась СКОБЛА.**

Фота "КП в Белоруссии".

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Елена КАРАГАЧЕВА: «Когда узнала, что меня отпускают домой под подписку о невыезде, была просто в трансе…»

*Экс-помощница Виктора Бабарико, которая на этой неделе вышла на свободу из следственного изолятора КГБ, рассказала «Народной Воле» о себе, семье и времени, которое провела в СИЗО.*

Елена Карагачева проработала в «Белгазпромбанке» более 20 лет, последние два года была помощницей Виктора Бабарико.

Ее задержали 1 июля, а 9 июля стало известно, что женщине предъявили обвинение. Елену Карагачеву, которую правозащитники признали политзаключенной, подозревают в уклонении от уплаты налогов.

– Честно говоря, изменение меры пресечения было для меня полной неожиданностью, – говорит Елена Ивановна. – За день до этого ко мне приходил адвокат. Ранее он обжаловал мое нахождение под стражей, но получил ответ от представителя следственной группы, которая занимается этим делом, что в изменении меры пресечения отказано. Когда узнала, была просто в трансе!

И вдруг 1 сентября после 16.00 вызывают и сообщают, что меня отпускают домой под подписку о невыезде.

**– В итоге в СИЗО КГБ вы провели ровно два месяца…**

– К такому зигзагу судьбы, конечно, заранее не подготовишься, но и в следственном изоляторе было терпимо.

**– Сколько человек находилось с вами в камере?**

– Сначала четыре человека, в то время я была «на вертолете». Если кто не знает, то «вертолет»



– это доска, которую кладут на пол на свободное место в камере, и таким образом появляется дополнительное спальное место.

В СИЗО КГБ разрешено спать днем, так что даже «вертолет» меня особо не смущал. Но где-то через три недели одного человека из нашей камеры перевели, и я оказалась на нормальных нарах.

Кстати, на еду тоже жаловаться особо не приходилось. Был даже президентский ужин – картошка и селедка.

**– Находясь в изоляторе, были в курсе того, что происходит в стране?**

– Моя соседка получала одну негосударственную газету, оттуда информацию и черпали. Был еще и телевизор, но там новости в основном были односторонние. Так что находила возможность и почитать, и посмотреть, и сравнить.

Но после выборов, насколько известно, независимые СМИ попали под репрессии, и та же газета к нам перестала приходить.

Хотя книги были, в СИЗО довольно приличная библиотека. Есть много классиков, современных авторов. Видимо, клиенты изолятора просто оставляют эти книги местной библиотеке, и таким образом она постоянно обновляется.

Я, например, с удовольствием прочитала произведения Эфраима Севелы, там много вещей, которые можно спроецировать на нашу действительность.

**– Писем много получали?**

– Безусловно, поддерживали близкие, знакомые, бывшие коллеги из банка. Каждое слово в поддержку – это очень важно. Помогало, вдохновляло…

Но самым сложным в эти два месяца было осознание того, что никакой вины за собой я не чувствую, но при этом нужно сидеть за решеткой. То есть ты ведешь правильный образ жизни, не нарушаешь никаких законов, а тебя пытаются в чем-то обвинить.

Психологически это нелегко для любого человека. Но благодаря поддержке людей, которые были рядом, и с этим удавалось справиться.

**– Вы отработали в «Белгазпромбанке» около 20 лет…**

– В мае этого года был 21 год, а в июне я уволилась. И, безусловно, никто не мог предвидеть, как будут развиваться события после того, как Виктор Бабарико заявил о своих президентских амбициях.

Я всегда видела своего шефа хорошим руководителем, который честно ведет бизнес, любит свою страну и желает блага ей и своему народу. Это было видно еще до того, как он изъявил желание вступить в эту гонку.

Поэтому все эти задержания и аресты еще до выборов были полной неожиданностью. В том числе и для Виктора Бабарико, потому что он делился со мной своими рассуждениями. Он упоминал, что его предупреждали о возможных репрессиях, но Виктор Дмитриевич всегда говорил так: «За мной нет никаких грехов. За что меня арестовывать?»

То есть, Виктор Бабарико не верил, что его могут арестовать, а уж я – тем более. Но… Случилось то, что случилось.

**– Вы были помощницей Виктора Бабарико последние два года?**

– Последние пять лет я работала в должности помощника-референта, но и до этого исполняла обязанности личного помощника председателя правления банка. Готовила корреспонденцию, обрабатывала документы, организовывала встречи, совещания и поездки. Одним словом, занималась организационными вопросами, которые никак не касались финансовых дел.

**– Продолжаете общаться с сотрудниками «Белгазпромбанка»?**

– Там осталось много друзей, которые на протяжении последнего времени поддерживали меня письмами, так что, безусловно, связь осталась.

Но я только вышла на свободу, поэтому не владею всей информацией, что сейчас происходит в банке.

Хотя лично у меня по поводу будущего «Белгазпромбанка» нет оптимистичных прогнозов. Разрушено то, что создавалось десятилетиями. Банк был единым сплоченным организмом, которому в этом году должно было исполниться 30 лет. И то, что с ним случилось, – это печально и болезненно.

**– Как семья пережила время, которое вы провели в СИЗО КГБ?**

– Сложно было всем. Кстати, муж Игорь и сейчас продолжает трудиться в структуре Службы безопасности «Белгазпромбанка». Сын работает в иностранной компании в сфере IT-технологий. Ждали, верили…

**– Близкие не ожидали вашего возвращения домой?**

– Никто этого не ожидал, потому что накануне супруг тоже узнал, что мне отказано в изменении меры пресечения. Так что мое освобождение для Игоря было приятной неожиданностью.

**– Но праздничный ужин успел приготовить?**

– Знаете, чего мне больше всего хотелось на ужин после выхода из изолятора? Обыкновенных куриных яиц! К сожалению, в СИЗО этот продукт нельзя передавать ни в каком виде.

**– Сейчас вы находитесь под подпиской о невыезде, но остаетесь в статусе обвиняемой. Чем планируете заниматься в ближайшее время?**

– Пока что не решила. Думаю, сначала нужно осмотреться…

**Алесь СИВЫЙ.**

ГОЛАС НАРОДА

## Рабочыя Мазырскага НПЗ: «Няма даверу да дзейнай улады»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

### Змірыліся ці не змірыліся?

*«Я не ведаю, чаму так рэагуюць прадстаўнікі дырэкцыі, бо нават мне праз канцылярыю завода прыйшоў згаданы зварот»,* – расказвае старшыня пярвічнай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза на МНПЗ **Юрый Швец.**

Паводле слоў майго суразмоўцы, яму вядома пра затрыманне 11 супрацоўнікаў прадпрыемства, прычым хапалі амапаўцы і міліцыя некаторых нават не на пратэстных акцыях, а на вечаровым праменадзе. Многія абураны тым, што іх галасы нахабным чынам скралі.

*«Як тут сказаць – змірыліся ці не змірыліся? Два з лішнім дзесяцігоддзі людзі бачылі вечна прадказальныя вынікі выбараў. Усё гэта назапашвалася, а цяпер хлынула, прарвала. Да таго ж многія пабілі, і гэта яшчэ больш раззлавала. Людзі візуальна бачылі, колькі іх прыходзіць на пікеты па зборы подпісаў за альтэрнатыўных кандыдатаў, многія ведалі, калі і за каго галасавалі. Ну і аб'явіць пасля гэтага, што за Лукашэнку падалі галасы 80 працэнтаў выбаршчыкаў, – гэта не проста перагнуць кіёк. Гэта перагнуць яго да зламу. Да таго ж перад папярэднімі выбарамі нікога з кандыдатаў і іх давераных асоб не пераследавалі, а тут нібы з ланцуга сарваліся. Было бачна, што ўлады падрыхтавалі вычварэнскі сцэнарый выбараў»,* – лічыць актывіст незалежнага прафсаюза.

Канечне, зварот падпісалі па розных прычынах не ўсе члены нафтаперапрацоўчага калектыву, а толькі прыкладна пятая яго частка. У дырэкцыю накіравалі зварот найперш для таго, каб тая праінфармавала кіраўніцтва краіны пра рэальны настрой работнікаў важнай у эканамічным плане галіны, якая фарміруе асноўныя паступленні ў нацыянальную скарбонку.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

ЕСТЬ ВОПРОС!

# Защитит ли профсоюз академика Мрочека?

Председатель Республиканского комитета профсоюза работников здравоохранения **Вячеслав ШИЛО** уклонился от разговора на эту тему с журналистом «Народной Воли»: сначала секретарь в приемной посоветовала позвонить через полчаса, а потом просто перестала поднимать трубку. Банальный прием, чтобы не дай Бог не сказать что-нибудь лишнее, обезопасить под собой служебное кресло.

Вот такая атмосфера в нашем обществе. Против которой в том числе и выходят люди на акции протеста. Но свою позицию об увольнении одного из лучших медиков страны господину В.Шило тем не менее придется обнародовать. В Республиканский комитет Белорусского профсоюза работников здравоохранения поступило коллективное обращение сотрудников РНПЦ в защиту своего директора Александра Мрочека. И по закону не позже чем через две недели комитет обязан на него ответить – показать свое истинное лицо.

Минские медики – первые, кто еще 11 августа открыто стал бить в колокола и сообщать о пациентах с пулевыми ранениями, поступающих с акций протеста. Что казалось просто немыслимым! А когда в столичные больницы начали привозить изувеченных людей из районных отделов милиции и изолятора на Окрестина, врачи открыто вышли в город на акцию против насилия. Это было 12 августа, их собралось около 700 человек, среди них были и сотрудники РНПЦ «Кардиология». А 27 августа директора этого учреждения – одного из самых известных кардиологов Беларуси академика Александра Мрочека – уволили. Минздрав оставил это решение, считай, без комментариев, но, думается, одной из причин стало то, что Александр Геннадьевич также открыто заявлял о своем протесте, и не где-нибудь, а в президентской газете «СБ. Беларусь сегодня».



Медики на акции протеста в Минске.

Увольнение заслуженного медика с честной гражданской позицией возмутило его коллег. Спустя несколько часов после появления увольнительного приказа на защиту академика Мрочека поднялся коллектив РНПЦ «Кардиология». Медики вышли с плакатами «Увольняйте – кто будет лечить?». Сотрудники РНПЦ написали коллективное обращение в поддержку своего руководителя и направили его в несколько адресов: в Администрацию президента, Совет министров, Министерство здравоохранения, а также в Республиканский комитет Белорусского профсоюза работников здравоохранения. Который, как выясняется, боится даже слово сказать в защиту своего товарища, причем самого известного доктора нашей страны. Для чего он тогда нужен вообще, этот республиканский комитет, который и существует-то на взносы медиков? Конечно, мы будем ждать официального ответа на обращение сотрудников РНПЦ «Кардиология», но начало не обнадеживает. Хотя в знак протеста доктора могут покинуть такой профсоюз, который защищает не их, а тех, кто творит беззаконие.


На чьей стороне вы, господин Шило?

**Елена МОЛОЧКО.**

ВОЛЯ НАРОДА

# Не хочаш як належыць працаваць – здавай мандат!

У Гродне грамадскія актывісты заняліся зборам подпісаў з мэтай правядзення сустрэч з дэпутатамі розных узроўняў. Выбаршчыкі хочуць мець інфармацыю аб іх дзейнасці, а ў выпадку, калі работа абраннікаў нездавальняючая, то альбо прымусіць іх працаваць так, як належыць, альбо папрасіць здаць мандат.

## Саветы – у адпачынках

У панядзелак гродзенец **Яўген Дудкін** панёс дакументы ў гарадскі Савет для атрымання дазволу на правядзенне пазачарговай сустрэчы з дэпутатам Нацыянальнага сходу па 51-й выбарчай акрузе **Ліліяй Кір'як**. Для гэтага было сабрана больш за 150 подпісаў выбаршчыкаў, што дае права арганізаваць сустрэчу з дэпутатам і пры неабходнасці ўтварыць ініцыятыўную групу па яго адкліканні.

– Ёсць і іншы варыянт, – разважае Дудкін, – Трэба сабраць 300 подпісаў, і такі сход паўнамоцны прагаласаваць і прыняць рашэнне аб тым, ці патрэбны ім такі дэпутат.

Па 51-й акрузе вырашылі спачатку заслухаць справаздачу дэпутата аб яго дзейнасці, а потым, калі спатрэбіцца, прыняць рашэнне аб стварэнні ініцыятыўнай групы для яго адклікання.

Як высветлілася, на практыцы не ўсё так проста, як напісана ў законе. Зарэгістраваць дакументы не ўдалося, паколькі старшыня гарадскога Савета **Барыс Фёдараў** знаходзіцца ў адпачынку, а сакратара не аказалася на месцы. Дакументы давялося накіраваць у Савет поштай.

У аўторак была зроблена яшчэ адна спроба падаць дакументы на правядзенне сустрэчы з дэпутатам Нацыянальнага сходу ўжо па 52-й выбарчай акрузе. Але гэтым разам людзям патлумачылі, што і сакратар гарадскога Савета знаходзіцца ў адпачынку.

Дудкін разам з паплечнікамі спрабавалі высветліць сітуацыю ў Гродзенскім абласным Савеце. Датэлефанавацца туды не змаглі. У прыёмнай аблвыканкама паабяцалі, што паспрабуюць высветліць, дзе зараз знаходзяцца супрацоўнікі абласнога Савета дэпутатаў, і патэлефанаваць.

– Сітуацыя такая, што ў Гродне немагчыма дагрукацца ні ў гарадскі, ні ў абласны Саветы – сапраўдны параліч прадстаўнічай улады на месцах, – канстатуе спадар Дудкін. – Гэта нонсэнс!

## Усе хочуць жыць па законе

**Анастасія Хазіна** распавядае, што іх каманда, якая займаецца зборам подпісаў для сустрэч з дэпутатамі, паставіла перад сабой задачу запатрабаваць пазачарговыя справаздачы ў дэпутатаў усіх узроўняў.

Паводле яе, ніхто з іх каманды раней ні займаўся ні палітыкай, ні грамадскай дзейнасцю. Да прыкладу, сама яна – эколаг.

– Мы ўсе разумеем, што патрэбна нешта рабіць дзеля аднаўлення парадку ў краіне, – гаворыць наша суразмоўніца.

Яна звяртае ўвагу на энтузіязм людзей: калі прыходзіць за подпісамі, то многія адразу прапануюць сваю дапамогу, самі ходзяць па кватэрах і збіраюць подпісы суседзяў.

– Усе хочуць жыць і працаваць па законе і таму гатовы дапамагаць, – падкрэслівае спадарыня Анастасія. – Але Закон павінен быць абавязковым для ўсіх без выключэння.

## Дэпутаты павінны быць прадстаўнікамі народа, а не служкамі вертыкалі

Спадарыня Хазіна кажа, што іх галоўная мэта – каб дэпутаты сапраўды вырашалі тыя вострыя праблемы, якія стаяць перад краінай.

Людзі, якія ставяць свае подпісы пад зваротамі, найперш хочуць, каб дэпутаты ўсіх узроўняў разабраліся з фальсіфікацыяй вынікаў выбараў, каб прыцягнулі да адказнасці вінаватых за збіццё мірных пратэстоўцаў, паколькі дасюль не ўзбуджана ніводнай крымінальнай справы ў адносінах да тых, хто даваў загады і хто збіваў.

– Мы не разумеем, што гэта за гарадскі Савет, калі ў панядзелак аб'яўляецца, што мітынгі дазволена праводзіць на цэнтральных плошчах горада, а ў сераду вісіць рашэнне таго ж Савета аб тым, што цэнтральныя плошчы не з'яўляюцца месцам для правядзення масавых мерапрыемстваў, – канстатуе спадарыня Анастасія.

Людзі настроены рашуча, і калі дэпутаты будуць адмаўляцца ад выканання патрабаванняў сваіх выбаршчыкаў, то, кажа Анастасія Хазіна, давядзецца запускаць працэдуру іх адклікання з пасад народных абраннікаў.

## «Кропку невяртання мы ўжо пераступілі»

Збіраючы подпісы, Анастасія Хазіна заўважыла, што многія моцна напалоханы. Пад рэпрэсіі трапляюць не толькі ўдзельнікі мірных акцый, а і выпадковыя асобы. Ніхто з амапаўцаў, з суддзяў не разбіраецца з кожным канкрэтным выпадкам і з кожным канкрэтным чалавекам, а б'юць, складаюць пратаколы і адпраўляюць на суткі.

Людзі баяцца, як усё гэта можа адбіцца на іх лёсе, паколькі добра разумеюць, у якой краіне жывуць. Тым не менш, лічыць Анастасія, кропку невяртання наш народ ужо пераступіў, і вярнуцца да стану, які быў нават паўгода таму, грамадства ўжо не зможа. А тое, як хутка ў Беларусі будуць адбывацца змены да лепшага, цяпер залежыць толькі ад актыўнасці саміх людзей.

Анастасія Хазіна ўпэўнена: адступаць нельга, сёння кожны павінен зрабіць на крок болей, чым учора.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**
*Гродна.*

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

Александр САЗОНОВ, экс-помощник президента Республики Беларусь, экс-министр предпринимательства и инвестиций:

# «Пусть ответят те, кто фальсифицировал выборы…»

В минувшее воскресенье на марше Мира и Независимости бывший ближайший соратник А.Лукашенко нес бело-красно-белый флаг.

«Народная Воля» расспросила, почему он сменил знамена.

– Это не сиюминутно происходило, я не в полете переобувался, как сейчас модно произносить, – *отвечает Александр Юрьевич*. – Еще до выборов говорил о многих вещах довольно резко. Люди, сталкиваясь с властью, натыкались на безразличие, беззаконие, самодурство, игнорирование их интересов. Работая исполнительным директором Ассоциации коммуникационных и маркетинговых агентств Беларуси, я сам сталкиваюсь с этим. Отдельные чиновники руководствуются отнюдь не государственными интересами, они лишь декларируют их. Я заявлял об этом публично, в том числе и выступая в Мингорисполкоме. Между властью и народом сегодня огромная пропасть.

**– У вас же еще недавно в кабинете висели фотографии, где вы плечо в плечо с Лукашенко…**

– А они и сейчас висят. Это история. Да, был причастен. И тогда это был действительно народный президент.

Ну а то, что случилось 9 августа… Огромное количество людей отдали свой голос, скажем так, за другого кандидата. Но во время фарса под названием «выборы» вдруг выяснилось, что все с точностью до наоборот. На фоне всех скрытых и явных вопиющих нарушений понятно, что такого расклада быть не может. Возможно, и Светлана Тихановская не выиграла выборы. Но и у Александра Лукашенко не может быть сегодня 80 процентов! Ну и последней каплей стало неадекватное применение силы к людям…



**– Вы сами в прошлом высокопоставленный чиновник. Можете объяснить, почему вдруг в один момент силовики как с цепи сорвались, будто прививку озверина получили? Я слышала такую версию: будто начальников РУВД 9 августа вызвали куда-то наверх, и они, уже вернувшись, отдали команду избивать задержанных, причем чем жестче, тем лучше. Кто мог отдать такой приказ?**

– Я думаю, что без одобрения сверху ни один сотрудник правоохранительных органов не стал бы настолько цинично нарушать Уголовный кодекс, проявляя такую беспрецедентную жестокость.

**– Складывается впечатление, что наверху кто-то будто специально стремится накалить ситуацию до предела. Вначале 80 процентов, потом избиение людей, через некоторое время – увольнения директора РНПЦ «Кардиология» академика Александра Мрочека и ректора БГУК Алины Корбут, которые всколыхнули медицинскую и студенческую среду. Плюс задержания журналистов, запрет на независимые медиа… Может, глава Администрации президента генерал КГБ Игорь Сергеенко или вечный сподвижник Виктор Шейман играют какую-то свою особую игру? Спрашиваю, потому что вы вращались в тех слоях атмосферы, представляете примерные расклады…**

– Я не сильно верю в роль каких-то внешних сил… Ну не пятая же колонна, не российские ведь спецслужбы выводили военную технику на улицы против протестующих! Без согласования с главой государства, избранным или не избранным, такие вещи были бы недопустимы. Против кого были эти БТРы? Против мирных граждан?

**– Я и говорю: многие действия сегодня трудно понять…**

– Мне кажется, со стороны власти сейчас идет подмена понятий, используется классический демагогический прием – внешние и внутренние враги. Не знаю, российские идеологи подбрасывают такие идеи или наши доморощенные это все придумали… На днях Лукашенко сказал: мол, я не за власть держусь, а за страну переживаю, которую порвут на куски. Так а что тогда мы за страну построили, если, кроме Лукашенко, во всей огромной вертикали власти нет ни одного человека, способного удержать страну? Что же это за власть, которая держится на одном человеке? Людей просто достала эта ситуация.

**– Вам не кажется странным, что депутатов, которых якобы избрали на якобы честных парламентских выборах, сегодня не видно и не слышно? Тех, кто пытается что-то говорить в оправдание власти и не боится идти к людям, можно пересчитать по пальцам одной руки…**

– Ключевые слова – «якобы избранные».

**– В ваши времена тоже были масштабные фальсификации на выборах? Вы, будучи помощником президента, как раз за Минск отвечали…**

– Я ведь ушел из власти очень давно – в 2000 году, были тогда фальсификации или нет – не готов ответить, а голословных заявлений делать не хочу. И тогда, наверное, президент все-таки еще пользовался поддержкой большинства. А я ушел на вольные хлеба потому, что счел неуместным свое участие в некоторых политических и экономических процессах.

**– Вы по натуре революционер?**

– Я против революций категорически!

Ну какая сейчас революция, если все происходит в рамках конституционного процесса? На улицу выходит не оппозиция, не политические партии выводят людей. Это самое настоящее народное движение, причем очень искреннее. Я, в отличие от некоторых, на бронированных мерседесах не езжу. И не с вертолета наблюдаю, что происходит в стране.

**– То есть вы на Марши свободы выходите не за деньги, а от души?**

– Хотелось бы, конечно, за деньги, но так не платят же, собаки! *(Смеется.)*

А если серьезно, то люди выходят, потому что возмущены, во-первых, фарсом под названием «выборы», а во-вторых, вопиющим насилием, которое сотворили силовики. И не надо говорить, что ничего не было, что все это сказки, а синяки – нарисованные! В той или иной степени это коснулось очень многих. 7000 человек задержали в первые дни протестов! У меня у знакомых дети пострадали – не наркоманы и проститутки, а воспитанные, приличные. Некоторые были далеки от политики, но попали под раздачу. И сегодня эти люди выходят на улицу и требуют остановить насилие.

Что-то запредельное происходит! Крутят детей, хватают журналистов! Сегодня каждый, у кого есть хоть капля совести, не должен молчать! Молчание сейчас подобно пособничеству творящемуся беззаконию и террору! Невозможно равнодушно читать и смотреть новости…

**– Как вам кажется, чем все это закончится?**

– Я пока вижу два сценария. Первый – протесты станут еще больше, подключатся все заводы…

**– На предприятиях протесты вроде бы постепенно затухают…**

– Сегодня затихло, а завтра из-за очередной безмозглости власти разгорится еще больше. Задержат студентов – завтра на улицу выйдут их родители, даже те, кто сегодня еще, быть может, поддерживает эту власть.

**– Лукашенко предупредил студентов: мол, не будут учиться – пойдут в армию.**

– Репрессии могут иметь разную форму, но от этого они не перестают быть репрессиями.

Так вот, продолжая разговор о возможных сценариях: либо протесты приобретут настолько массовый характер, что власть вынуждена будет уйти. Либо ее просто сметут.

Либо всё на самом деле утихнет, и начнется скрытый процесс трансформации власти.

Мне больше нравится цивилизованный способ передачи власти, но в нашем случае я в него как раз меньше всего верю. Хотя бы просто потому, что не вижу желания отдать власть. Пока есть только декларация: мол, присылайте свои предложения, будем делать реформы. Я как бывший чиновник говорю: кому присылать свои предложения, где структура, которая всем этим занимается, где их контакты? Ничего нету! На фоне запугивания людей и тихого хапуна идут только пустые разговоры.

Мне вообще кажется, что Лукашенко сейчас кто-то старательно сдерживает. Потому что в минувшее воскресенье на проспекте Независимости техника вначале пошла на людей, а потом вдруг в один момент откатила назад. Словно кто-то вовремя за руку взял…

**– Сегодня много говорится о диалоге. Вы готовы вести переговоры с теми, кто сегодня удерживает власть в стране?**

– Я всегда считал, что худой мир лучше доброй драки. И надо искать какие-то пути диалога. Но я не вижу, чтобы власть их искала! Не задекларирована даже дорожная карта: мол, до такого-то срока будет создана рабочая группа по Конституции, до такого-то срока Основной закон будет вынесен на обсуждение, основные положения Конституции, которые предлагается изменить, – раз, два, три, пять пунктов, чтобы было понятно всем, о чем идет речь. Если есть какие-то расхождения – мы их обсуждаем. На такой-то период планируются референдум, новые выборы и так далее. Я не вижу таких конкретных действий со стороны власти.

Просто-напросто страну доведут до такого критического экономического состояния, из которого выходить придется не один год. И с большими потерями для всех. И виновата в этом будет только нынешняя власть.

Выдавленную зубную пасту в тюбик обратно не вдавишь. С народом нужно разговаривать, людей нужно слышать. Аресты, дубинки и БТРы, запрет медиа – это не метод переговоров.

Ну и у меня, честно говоря, куча других вопросов, не менее важных.

Кто будет принимать новую Конституцию? Каким образом?

Лукашенко говорит про референдум – а кто будет считать голоса? Этот же ЦИК во главе с Ермошиной? По тем же самым принципам и тому же самому избирательному законодательству, которое у нас есть? Это один из ключевых вопросов!

А то, что творили силовики, – это что, уже забылось властью? Или все-таки кто-то понесет за это наказание в строгом соответствии с Уголовным кодексом? Я не говорю, что отвечать должны только омоновцы. Пусть отвечают все – и экстремисты, если они выявлены, и силовики, и провокаторы.

Пусть ответят те, кто фальсифицировал выборы. Там вообще страшное наказание предусмотрено. Но сейчас об этом что, все уже забыли, когда ведут речь о диалоге?

Может, в первую очередь стоит начать с восстановления законности и порядка в стране? Зачем Конституция, которая не исполняется на самом верху?

И мне не очень понятно, что сегодня надо ставить во главу угла – Конституцию либо законность?

Это вопросы, которые оставлены без ответов. И именно поэтому пока в этом диалоге, который декларируется отдельными персонами, я не вижу никакой перспективы…

Сейчас запугивают тех, кто входит в Координационный совет. Ну они же не призывают к свержению власти, они готовы вести диалог! Еще толком никому не понятно, что вообще сделал этот совет, а уже возбудили уголовное дело. Беззаконие – оно и есть беззаконие, во всех сферах…

**Марина КОКТЫШ.**

ЛЁСАВЫЗНАЧАЛЬНАЕ

# «Мне не трэба біць сябе ў грудзі: «Я – прэзідэнт». Людзі і так ведаюць, за каго галасавалі»

*Эксклюзіўнае інтэрв'ю Свабодзе Святланы Ціханоўскай*



### «З юрыдычнага пункту гледжання, паколькі ўжо і вынікі галасавання знішчылі, даказаць гэта не ўяўляецца магчымым»

**– У інтэрв'ю «Белсату» вы казалі, што не лічыце сябе прэзідэнткай. Як паказваюць вынікі галасавання на ўчастках, дзе сябры камісій вывесілі рэальныя пратаколы, а таксама дадзеныя платформаў «Голас» і «Честные люди», вы перамаглі на прэзідэнцкіх выбарах у першым туры. Якую адказнасць вы адчуваеце перад тымі, хто галасаваў за вас?**

– Я лічу сябе абраным народам прэзідэнтам, але я не магу абвясціць «Я – прэзідэнт», бо мы першапачаткова ішлі законным шляхам. Беларускіх людзей не падмануць, ім нічога даказваць не трэба. Мне не трэба біць сябе ў грудзі: «Я – прэзідэнт». Яны і так ведаюць, за каго галасавалі. І цяпер у тым ліку і ў абарону сваіх галасоў выходзяць амаль кожны дзень на вуліцы. З юрыдычнага пункту гледжання, паколькі ўжо і вынікі галасавання знішчылі, даказаць гэта, напэўна, не ўяўляецца магчымым. Прэзідэнт не той, хто назваў сябе прэзідэнтам, трэба, каб было што прад'явіць і міжнароднай супольнасці.

Мы вельмі акуратна падыходзім да гэтага пытання. Мне многія кажуць: «Скажы, што ты прэзідэнт». Ад таго, што я гэта скажу, нічога не зменіцца па вялікім рахунку. Людзі і так ведаюць, чаго яны хочуць. І я разам з імі. Мы ж змагаемся за нашы правы, за права гаварыць, стаяць, пляскаць у ладкі, выбіраць таго прэзідэнта, каго лічым патрэбным.

Я шмат вагалася, абвяшчаць ці не абвяшчаць *(сябе прэзідэнтам. – **РС**)*, і ўсё ж, напэўна, яшчэ не прыйшоў час. Калі раптам мы пабачым, што сітуацыя такая, што без гэтага не абысціся, то, хутчэй за ўсё, на гэты крок мы пойдзем. А пакуль трэба вельмі асцярожна падыходзіць да гэтага пытання.

### «Аб'яднаны штаб не існуе ў тым выглядзе, як раней, але мэта засталася тая самая»

**– Як вы думаеце, ваш саюз трох – Веранікі Цапкалы, Марыі Калеснікавай і вас – гэта ўжо мінуўшчына? Ці вы выканалі сваю перадвыбарную задачу і цяпер кожная працуе ў сваім кірунку?**

– Аб'яднаны штаб не існуе ў тым выглядзе, як раней, але мэта засталася тая самая. І кожны са сваёй пазіцыі робіць усё магчымае, каб да гэтай мэты наблізіцца. Марыя Калеснікава – у складзе прэзідыума Каардынацыйнай рады, Вераніка дае шмат інтэрв'ю пра сітуацыю ў Беларусі і прыцягвае да яе ўвагу міжнароднай супольнасці. Я са свайго боку раблю ўсё магчымае. Мэта засталася тая ж самая – новыя, сумленныя, празрыстыя выбары, і кожны да яе ідзе, як можа. Мы кантактуем і каардынуемся.

**– Што б вы маглі сказаць Аляксандру Лукашэнку?**

– *(Доўгая паўза перад адказам.)* Каб ён пачуў свой народ. Пачуў і зразумеў. Было б вельмі годна з яго боку цяпер зрабіць слушны крок. Ён сцвярджаў, што любіць сваю краіну, свой народ, і вельмі слушна было б не пагаршаць сітуацыю, а пайсці насустрач свайму народу, пачуць жаданні людзей і выйсці з гэтай сітуацыі з годнасцю.

**– Думаеце, што гэта яшчэ магчыма?**

– Магчыма ці не, не ведаю, але данесці гэтую думку хацелася б.

### «Нашы людзі не прагнуць помсты, яны хочуць, каб супрацоўнікі міліцыі і АМАПа сталі на бок народа»

**– На Маршы міру ў Мінску адзін амапавец на адчайныя заклікі жанчыны, якая стаяла перад кардонам, сказаў па-беларуску: «Дзякуй, я вас пачуў». Што б вы сказалі сілавікам?**

– Я перакананая, што сілавікі, якія стаяць у гэтай счэпцы, вагаюцца. І ім таксама страшна. З аднаго боку, страшна не выканаць загад, калі ён будзе. Гэта ўсё ж іхняя праца. Вядома, гэта не апраўданне, але ўсё роўна… З другога боку, яны не ўсе аднолькавыя. Я разумею, што нельга апраўдаць тых, хто тварыў гэты генацыд 9, 10, 11 жніўня. Але я думаю, што сярод іх большасць – людзі, людзі з вялікай літары, і яны разумеюць, што так нельга. У іх ёсць абавязацельствы. Прысяга патрабуе падпарадкавання, але яны павінны памятаць, што прысягалі найперш народу, ніяк не аднаму чалавеку.

Я спадзяюся, што ў нейкі момант, калі адважацца зрабіць гэты выбар, яны павінны ведаць, што народ іх падтрымае. Нашы людзі не прагнуць помсты, яны хочуць, каб супрацоўнікі міліцыі і АМАПа сталі на бок народа, і тады мы ўсе будзем адзінай сілай. Усе мы беларусы. Яны таксама вяртаюцца дадому да дзяцей, да сем'яў. Як яны сябе адчуваюць пасля гэтага? Вялікае пытанне. Гэта залежыць ад кожнага супрацоўніка.

Я ведаю, яны баяцца, яны нейкія грошы павінны плаціць за сваё навучанне. Калі прыйдзе новы прэзідэнт, я думаю, дзяржава дапаможа ім выйсці з тых умоў, у якіх трымаюць іх. Заставайцеся проста людзьмі. Калі ёсць магчымасць не выканаць гэтага загаду, проста слухайце сваё сэрца. Я разумею, што ў кожным з іх жыве чалавек, і ім часам цяжка выконваць гэтыя загады, стаяць у гэтых счэпках, гледзячы ў вочы мацярок, жанок, дзяцей. Кожны павінен сам з сабой змагацца найперш.

**– А што б вы сказалі людзям, якія сотнямі тысяч выходзяць на вуліцы беларускіх гарадоў?**

– Я ганаруся ўсімі! Я ганаруся кожным чалавекам, які стаіць там, які выходзіць. Мы казалі часта: «Вы – неверагодныя!» Гэта так і ёсць. Памятайце, што пакуль мы разам, мы – сіла. Падтрымлівайце адзін аднаго. Мы робім усё магчымае, каб падтрымаць вас. Гэта і маральная падтрымка, таксама шмат ініцыятыў з'явілася з матэрыяльнай падтрымкай. Гэты год – асаблівы, і мы проста павінны выстаяць. Мы змагаемся за нашу светлую будучыню, не за канкрэтнага чалавека. Мы змагаемся за будучыню нашых дзяцей. Таму дзякуй вялікі ўсім, хто выходзіць, хто адстойвае свае правы! Нізкі вам паклон. Я не магу быць з вамі, але мае думкі і сэрца з вамі.

### «Думала, што людзі не зразумеюць, скажуць, што я ўцякла»

**– Гэта, па сутнасці, гарызантальны мірны пратэст без лідараў, самаарганізаванае грамадства. Сябры Каардынацыйнай рады бяруць удзел, але не кіруюць пратэстамі. Ідзе размова пра тое, што гэта можа быць працяглы мірны пратэст. Як вы бачыце сваю ролю ў ім, у гэтым мірным, магчыма, доўгім і пакутлівым працэсе?**

– Дзякуй людзям, якія падтрымалі мяне ў той момант, калі я была вымушана з'ехаць. Я думала, што людзі не зразумеюць, скажуць, што я ўцякла. Было шмат перажыванняў, я шмат прыходзіла ў сябе пасля гэтага, але я адчула каласальную падтрымку людзей, такую ж, як і на працягу ўсёй выбарчай кампаніі адчувала. Мяне зразумелі, мне пісалі людзі, што яны рады, што я ў бяспецы. Гэта мне дало сілы чарговым разам не здацца. І цяпер, знаходзячыся ў Літве, я спрабую зрабіць усё, што магу.

Кантакты ідуць ужо на крыху іншым узроўні – з лідарамі розных краін з нагоды сітуацыі ў Беларусі. Шмат лідараў тэлефануюць, мы сустракаемся. Вельмі ўдзячная за падтрымку. Падзеі ў Беларусі цяпер абмяркоўваюць ва ўсім свеце, і ўсе бачаць, што пратэсты маюць мірны характар, што гэта палітычны крызіс унутры краіны, людзі выступаюць супраць дзейнай улады, і тое, што адбываецца, не мае геапалітычнага характару.

### «Муж ведае, урыўкамі, напэўна, што адбываецца ў краіне»

**– Святлана, якая самая апошняя інфармацыя пра Сяргея Ціханоўскага? Ці атрымліваеце вы лісты? У якіх ён умовах? Што ён ведае пра тое, што адбываецца ў краіне і з яго сям'ёй?**

– У нас адбываецца кантакт праз адваката. На жаль, я не ведаю, як рухаецца крымінальная справа, таму што ў адваката падпіска аб неразгалошванні, але я ведаю, як ён сябе адчувае фізічна і маральна. У прынцыпе, нядрэнна. Ён ведае, урыўкамі, напэўна, што адбываецца ў краіне. Ён усім вельмі ўдзячны і ў захапленні ад людзей у Беларусі. Сёлета ў нас адбылася рэвалюцыя самасвядомасці, мы адчулі сябе адзінай нацыяй, народам. Адзін – за ўсіх, і ўсе – за аднаго. Сяргей і мяне падтрымлівае.

**– Ці ведае ён пра вашу дзейнасць цяпер?**

– Ён ведае, што мы былі вымушаны з'ехаць, вельмі перажывае, ці мы ў бяспецы. Я хачу сказаць, што ўсім палітвязням аказваецца юрыдычная дапамога, а таксама ўсім, хто быў затрыманы 9, 10, 11 жніўня. У нас шмат ініцыятыў, якія дапамагаюць людзям гэта перажыць. Безумоўна, я хвалююся за мужа, але найбольш мяне хвалюе сітуацыя з затрыманымі ў першыя дні пасля галасавання і тое, што ў нас шмат зніклых без вестак. Гэта нейкі сюррэалізм, нельга зразумець, дзе людзі. Ці іх спецыяльна хаваюць, ці людзі ў такім стане, што іх немагчыма паказаць.

Тое, што не было заведзена ніводнай крымінальнай справы з нагоды збіцця і смерцяў, гэта таксама ненармальна, мякка кажучы. У нас імгненна распачынаюць адміністрацыйныя справы за ўдзел у мітынгу, а па рэальных сур'ёзных злачынствах не было заведзена ніводнай крымінальнай справы. Улада і так страціла ўсялякі давер людзей Беларусі. Цяпер гэта страшнае злачынства нібыта адыходзіць на другі план, яго спрабуюць завуаляваць, але пра гэта трэба гаварыць увесь час. Цяпер у мяне пачуццё трывогі ніколі не праходзіць. Я не магу звязаць гэта з толькі з Сяргеем, у мяне цяпер сталае напружанне.

**– Ведаю, што вы не хочаце расказваць пра размову з прадстаўнікамі спецслужбаў, якая адбылася ў кабінеце Лідзіі Ярмошынай. Ці абяцаеце расказаць пра гэта пазней?**

– Абяцаць не магу, але, мажліва, калісьці я знайду ў сабе сілы, калі будзе такая магчымасць і мы будзем свабодна гаварыць. Я спадзяюся, што гэта адбудзецца вельмі хутка, і я раскажу свету, Беларусі пра тое, што там было. Але не цяпер.

**Сціслa**

*Я лічу сябе абраным народам прэзідэнтам, але я не магу абвясціць «Я – прэзідэнт», бо мы першапачаткова ішлі законным шляхам. А беларускім людзям нічога даказваць не трэба, яны і так ведаюць, за каго галасавалі.*

*Што б я сказала Лукашэнку? Каб ён пачуў свой народ. Было б вельмі годна з яго боку цяпер зрабіць слушны крок, пачуць жаданні людзей і выйсці з гэтай сітуацыі з годнасцю.*

*Нельга апраўдаць тых, хто тварыў генацыд 9, 10, 11 жніўня, але я думаю, што сярод іх большасць – людзі, і яны разумеюць, што так нельга.*

*Я хвалююся за мужа, але найбольш мяне непакоіць сітуацыя з затрыманымі ў першыя дні пасля галасавання і тое, што ў нас шмат зніклых без вестак.*

*Спадзяюся, што гэта адбудзецца вельмі хутка, і я раскажу свету, Беларусі пра тое, што было ў кабінеце Ярмошынай. Але не цяпер.*



ОСТОРОЖНО!

# Яд и ложь госканалов

В прошедшие выходные в столице прошло два потрясающе красивых народных шествия – «Женский марш солидарности» в субботу и «Марш мира и независимости» в воскресенье. Их, пожалуй, можно назвать революционными карнавалами, так смело и креативно оплодотворило текущую политику стихийное творчество масс (а на улицы вышли сотни тысяч белорусов).

И что об этих двух маршах, важнейших событиях в жизни страны, вылилось на экран Белорусского телевидения, на его главные каналы БТ-1 и ОНТ?

Яд и ложь. Сарказм и пошлость. «Главный эфир» на БТ-1 выразился вообще как-то по-бабски: «Вышли и испортили выходной». Народные шествия для них, видите ли, непредвиденная досада. А в стране между тем шел 20-й и 21-й день массовых протестов…

Вообще, как таковых политических новостей в итоговых информационных программах воскресного БТ не было. Эфир отдали комментариям приглашенных российских и украинских экспертов антизападной направленности под рубрикой «Заграница не поможет». Тем более что на первом канале БТ сейчас работают, как пишет *РБК* со ссылкой на еженедельный обзор *Sense Analytics*, две бригады технических специалистов и минимум три российских корреспондента телеканала RT («Россия сегодня»): Жданов, Придыбайло, Бабаян.

А вот очень хотелось бы от Белорусского телевидения насущной хроники: сколько человек вышло на мирные марши 29 и 30 августа, согласно официальной статистике МВД? Какие лозунги несли люди, какие основные требования у протестных акций, которые повторяются вот уже третьи выходные подряд? В конце концов, были задержанные или обошлось без беспорядков? Ах да, про беспорядки «Главный эфир» смог-таки подловить сюжетик, но очень похоже, что заранее состряпанный, потому что их камера как-то очень выгодно снимала всю ситуацию сверху – и как только режиссеры смогли предугадать место происшествия? Ну, на БТ. не стесняясь, теперь рулят российские «профи», говорят, что они заранее специально на эти выходные арендовали квартиру на проспекте Независимости. Выходит, ждали обещанную заварушку? И она произошла! И вот в «Главном эфире» сначала показывают картинку, как некий демонстрант пытается разбить машину ОМОНА – но, впрочем, это по словам комментаторов. В кадре же мы наблюдаем какую-то кучу малу, потасовку сильных мужчин, кого-то все-таки засовывают в бусик, а потом вдруг видим пьяное признание человека (почему-то без фамилии) в стенах, видимо, какого-то РУВД: «Эх, извините, ребята, алкоголь… Перепил…»

Это на шествиях, где люди не оставляют за собой даже крошек на тротуарах?! А если становятся на скамейки, то снимают обувь? Где пьют только минеральную воду и не слышно даже крепкого словца? Да полноте! Сценарий по шаблону, на троечку. А если и был один такой «припыленный», то сотни тысяч граждан прошли по проспектам и улицам мирно и дружно, с цветами и песнями, с улыбками и открытым сердцем. Понятно, звучали и речевки типа «Саша, уходи», «Верым! Можам! Пераможам!», «Жыве Беларусь!» и прочие. Почему не рассказывают обо всем, а огульно оскорбляют людей, называя «бесчинствующими молодчиками»? А чтобы подтвердить ложь, что на воскресные шествия в Минске идут лишь одни маргиналы, «Главный эфир» и «Контуры» – их основные сюжеты сделаны под копирку – предлагают зрителю не живые эфиры с места события, а подсовывают зарубежные хроники давних стычек с полицией из Польши, Украины и Германии. При этом звучит такая трагическая музыка… Ну, сердце падает вниз от ужаса – а на это, собственно, и расчет.

Кстати, по поводу кадров из Берлина, которые так кстати пришлись в эти выходные белорусским госканалам. В немецкой столице только что прошла многотысячная демонстрация против карантина, участники которой порой действительно вели себя с полицией довольно грубо. Но что интересно: мэрия Берлина была против этого шествия и не дала на него разрешения – пандемия снова набирает обороты в Европе. Но суд встал на сторону организаторов: люди имеют право на мирный протест! Вы подумайте: у нас возможно, чтобы наш суд опирался только на Конституцию, а не на указания сверху? Так и хочется задать этот вопрос господину Сукало, который с Фемидой явно не в ладах.

Но больше всего лично меня оскорбила в воскресных информационных программах БТ-1 и ОНТ «банкетная нарезка», как я назвала этот прием, прямой речи тех или иных участников белорусских мирных акций. Ну, это же просто какая-то уголовщина! Например, у молодой женщины берут на улице интервью, а потом оставляют из него только два слова: «наркоманы» и «гуляют». И как она головкой машет для подтверждения… Эффектно? Из интервью Валерия Цепкало телеканалу «Дождь» тоже оставляют несколько вырванных из контекста фраз про «координаторов на Западе». Не важно, что полная бессмыслица, – главное, чтобы у зрителя сложились нужное для БТ впечатление.




Но самый безобразный сюжет был изготовлен на БТ-1 из репортажа польского телеканала «Белсат». Это был прямой эфир с акции протеста учителей против нечестных выборов у Министерства образования РБ. Варшавская журналистка опрашивала митингующих педагогов. Но на БТ-1 остались от сюжета только рожки и… рожки. Люди в белорусском кадре успевают что-то промычать, покачать головой, в крайнем случае произнести слово «нет», как шальная журналистка вроде бы мчится дальше. Вот как ловко работают монтажные ножницы! Получилось, что и настоящих учителей у министерства не было, и политических требований никто не выдвигал. А заявилось, как всегда, «отребье», чтобы нарушить нашу мирную жизнь. Правда, выкройка и склейка чужого сюжета сделана грубо, швы заметны, но телевизионный продукт рассчитан не на гурманов – зритель попроще, скорей всего, скушает. И, конечно же, отравится.

**Елена МОЛОЧКО.**

РЭБУС

# Сённяшняя Беларусь для Крамля – загадка

## *Погляд вядомага расійскага палітолага Глеба Паўлоўскага на сітуацыю ў Беларусі*

**– Як вам здаецца, з якімі настроямі і думкамі сочаць зараз у Крамлі за тым, што адбываецца ў Беларусі?**

– Я думаю, што там не ўсё разумеюць. Паводле расійскіх звычаяў кожная наступная дэманстрацыя пасля галоўнай павінна быць меншай, не такой масавай. А тут, наадварот, людзей выходзіць на вуліцы ўсё больш і больш. Я мяркую, яны спрабуюць дакумекацца: што б гэта значыла для Лукашэнкі?

З аднаго боку, пратэстоўцы паводзяць сябе гэтак жа, нават, я сказаў бы, больш карнавальна, чым раней. З іншага боку, іх становіцца больш, а гэта сведчыць аб тым, што ідзе нейкі працэс. Куды ён скіраваны, што гэта такое? Скончылася беларуская рэвалюцыя ці не? Рэвалюцыі наогул такія істоты – яны то сыходзяць углыб, то ўспыхваюць.

У мяне ёсць гіпотэза, чаму людзей на акцыях становіцца больш. Таму што гэта адказ на спробу Пуціна ўмяшацца ў працэс, на выклік, звязаны з незалежнасцю краіны.



**– Хто, на вашу думку, у Крамлі цяпер прымае рашэнні па Беларусі? Асабіста Пуцін?**

– Я спадзяюся, што ў дадзеным выпадку сапраўды гэта асабіста Пуцін. Ён звычайна такія важныя рэчы не выпускае з рук. Вядома, за гэтым сочыць і ўся кампанія сілавікоў з Савета бяспекі. Зразумела, што сочыць расійскае МЗС…

**– Словы Пуціна пра рэзерв сілавікоў для Беларусі – як вам здаецца, гэта проста рыторыка ці за гэтым нешта можа паследаваць?**

– Ён сам, мабыць, лічыў, што гэта такая хітрая гульня на мяжы сілавой і негвалтоўнай. Але гэта выказванне не пагроза ваенным уварваннем. А з іншага боку, гэта павінна зрабіць ураджанне найперш на атачэнне Лукашэнкі, на беларускіх сілавікоў, якія павінны зразумець, што ёсць каму іх прыкрыць. Але гэта выклікала, па-мойму, адваротнае ўражанне як у Еўропе, так і ў Беларусі.

**– Тым не менш зараз на акцыях пакуль не гучаць антырасійскія лозунгі. Як вам здаецца, яны могуць з'явіцца?**

– Яны могуць з'явіцца, калі Масква паспрабуе глыбей улезці ў беларускія справы. Цяжка прыдумаць нешта горшае, чым дапамагаць Лукашэнку, які сам непрадказальны нават для сваіх саюзнікаў. Што ён выкіне сёння, заўтра – мы яшчэ не ведаем. У Мінск чамусьці ўвялі вайсковую тэхніку. Яна абсалютна бескарысная ў такіх сітуацыях, як мы бачым, калі праспекты проста забіты людзьмі. Я думаю, што ўзровень свядомасці нашага лідара не намнога вышэйшы, чым у Лукашэнкі.

У Мінску адбываецца цікавая рэч – распластоўваецца сам пратэстны рух. Людзьмі на вуліцах не кіруе Каардынацыйная рада. Рада актывізавалася, праўда, са спазненнем, але сувязі паміж тым, што адбываецца на вуліцах Мінска, і Каардынацыйнай радай няма.

**– Днямі з'явілася інфармацыя, што Лукашэнка паляціць у Маскву за парадамі, з намерам атрымаць нейкія кансультацыі. Як вам здаецца, якога роду могуць быць кансультацыі?**

– Лукашэнку гэта неабходна ў рамках прыкрыцця Масквой шэрагу яго дзеянняў. Ён сёння абараняецца, прыкрываецца і ад грамадзян, і, можа, яшчэ ў большай ступені ад свайго апарату Пуціным, Масквой. Яму гэта, відавочна, трэба больш, чым Пуціну.

А пра што яны будуць гаварыць – я не ведаю. Пуцін, напэўна, будзе чакаць, што адбудзецца за гэты час. Апошнія дні, напрыклад, не ўмацавалі пазіцыі Лукашэнкі. З аднаго боку, людзі нічога агрэсіўнага не робяць, але, з іншага боку, яны абсалютна татальна адпрэчваюць якуюнебудзь яго легітымнасць як прэзідэнта Беларусі, хочацца сказаць ужо «былога». Таму для Пуціна гэта вялікая праблема. Можа, ён нешта да гэтага часу прыдумае, але, хутчэй за ўсё, гэта будзе сімвалічная сустрэча.

**– Які інтарэс ва ўсім гэтым можа быць у Крамля?**

– Самы прамы. Менавіта Пуціну нельга страціць Беларусь. Масква наўрад ці страціць Беларусь, а Пуцін можа страціць, калі рэвалюцыя пераможа. Значыць, яму нельга гэтага дапусціць. Ён зрабіў заяўку, што ён, Пуцін, – галоўная дзеючая асоба ў крызіснай сітуацыі беларусаў. Аб гэтым сведчыць яго паведамленне пра сілавікоў, пра спецыяльны рэзерв. Маўляў, ён ужо за гульнявым сталом. Хоць гэта, на мой погляд, звычайны блеф. Што рэзерв маскоўскіх сілавікоў можа зрабіць з Мінскам? Ды нічога, вось у чым справа.

**– Ніхто з лідараў апазіцыі не выходзіць на вуліцы з нейкімі антырасійскімі лозунгамі. Чаму б Пуціну не прыняць пратэстныя акцыі ў Беларусі, як рэвалюцыю ў Арменіі?**

– У Арменіі, па-мойму, прайшло гадзіны дзве-тры пасля таго, як вайскоўцы далучыліся да дэманстрантаў, і прэзідэнт сышоў. Тут з пункту гледжання чыста палітычнага, вядома, жахлівая працяжка, жахлівая пракрастынацыя лідараў. Усё, што цяпер кажа Ціханоўская і пра ўрад, сфарміраваны на базе цяперашняга, і пра гатоўнасць да дыялогу з Лукашэнкам пры ўмове вызвалення палітвязняў, – гэта ўсё рэчы, якія павінны былі быць сказаны два ці два з паловай тыдні таму, і тады яны маглі б спрацаваць.

А навошта яны будуць выступаць з нейкімі антырасійскімі заявамі? Але калі сам Пуцін выкліча антырасійскую хвалю сярод людзей, то Каардынацыйная рада, якая пляцецца за масавым рухам, таксама, вядома, стане антырасійскай. Гэта будзе непазбежна. Але я хацеў бы, каб Пуцін такой дурасці не зрабіў.

(«Настоящее время».)

ТЫМ ЧАСАМ…

# Лілія Уласава – пад крымінальнай справай

*Сябру Каардынацыйнай рады, вядомага медыятара абвінавачваюць ва ўхіленні ад выплаты падаткаў.*

Санкцыі крымінальнага артыкула прадугледжваюць да 7 гадоў пазбаўлення волі.

Па справе праходзіць таксама сын Уласавай Барыс, заснавальнік вядомай турыстычнай кампаніі «Мерлінтур».

**Паліна ПЛАТОНАВА.**

ЖАХ!

# Вользе Кавальковай – яшчэ 15 сутак

*Учора яна павінна была выйсці на волю. Але члена Аб'яднанай грамадзянскай партыі, члена прэзідыума Каардынацыйнай рады прызналі вінаватай ва ўдзеле ў мітынгу каля гатэля «Планета» 23 жніўня.*

Кавалькова віны не прызнала.

Вольга паскардзілася на нечалавечыя ўмовы ўтрымання і патрабавала медыцынскай дапамогі.

*«Гэта проста катаванні, што адбываецца са мной,* – цытуе Радыё Свабода Вольгу, якая давала паказанні праз скайп. – *Я некалькі дзён не спала нармальна, сёння ўначы я спала толькі адну гадзіну. Мне моцна баліць жывот цяпер, я не магу сядзець. Я маю патрэбу ў медыцынскай дапамозе».*

**Галіна РУТ.**

ЛИЦА С ЭКРАНА

# Дениса Дудинского и Дмитрия Кохно задержали силовики

*Их обвиняют в участии в несанкционированных массовых акциях.*

Дудинскому и Кохно вчера дали по 10 суток. По словам супруги Дениса Дудинского Катерины Раецкой, ночь ее муж провел в ЦИП на Окрестина.

Надежда Кохно выложила видео, на котором видно, что Дмитрия задерживали на автостоянке шестеро силовиков с криками *«Лицом в пол!»*. Задержание происходило на глазах у матери Дмитрия.

*«Слава Богу, что этого не видел наш сын!»* – говорит Надежда Кохно.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

РЕЗОНАНС

Дайнюс ЖАЛИМАС,
председатель Конституционного суда Литвы:

# «С правовым государством несовместимы продажные судьи и суды»

*Председатель Конституционного суда Литвы предложил внести имена судей Конституционного суда Беларуси в санкционные списки.*

– На стене главного зала Литовского Конституционного Суда, как раз куда упираются взгляды судей, золотые буквы гласят старинную мудрость: «Curantes iura iuvant» – «Право защищает того, кто его уважает», – *высказался Жалимас*. – На принципе верховенства права строятся основы современного правового государства, источником которого является народное волеизъявление. С демократическим государственным строем несовместима узурпация власти, отнятие права свободного голоса, суд без следствия и права на юридическую защиту, милицейский произвол, политическое преследование, пытки и цензура. С правовым государством несовместимы продажные судьи и суды.

Конституционный суд Республики Беларусь взял на себя бремя предательства своего же народа. В последнем своем постановлении («позиции») он определил антиконституционными любые попытки народа Беларуси защитить свой демократически выбор лучшего, свободного будущего.

Суд закрыл глаза на вездесущие доказательства фальсификации итогов президентских выборов, а также на преступления против человечности, совершенные авторитарным режимом за последние несколько недель. Тем самым суд отрекся от служения праву как таковому и определил себя как орудие расправы ослабшего диктатора над его отвергающим большинством.

Имена таких «судей» заслужили не золотых букв, а для начала внесения в санкционные списки приспешников нелегитимного режима Лукашенко.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# «Северный поток – 2» необходимо достроить

*Канцлер Германии **Ангела Меркель** вновь подтвердила свою приверженность завершению строительства газопровода «Северный поток – 2», несмотря на санкции США.*

Об этом Меркель сказала во время визита в свой избирательный округ в городе Штральзунд.

*«Мы также считаем эти экстерриториальные санкции, действие которых выходит за пределы территории США, неправомерными»*, – сказала Меркель.

Штральзунд расположен в федеральной земле Мекленбург – Передняя Померания, для экономики которой новый газопровод очень важен.

На прошлой неделе Меркель заявила, что вопрос газопровода «Северный поток – 2» и отравление российского оппозиционера Алексея Навального не следует связывать и трубопровод **должен быть достроен**.

В то же время президент Франции Эммануэль Макрон заявил, что он высказывал свои сомнения относительно газопровода в разговоре с Меркель. По словам французского лидера, его беспокоит, что российский трубопровод увеличит зависимость Европы от поставок российского газа.

# Daimler открыл в ФРГ новый сверхсовременный автозавод

*Завод в немецком городе Зиндельфингене будет выпускать все флагманские автомобили марки Mercedes. Он оснащен по последнему слову техники и климатически нейтрален.*

Немецкий концерн Daimler одновременно с презентацией новой модели автомобиля Mercedes S-класса открыл в своем традиционном производственном центре в городе Зиндельфингене новый сверхсовременный автозавод. Завод Factory 56 площадью в 30 футбольных полей, обошедшийся почти в 730 миллионов евро, позволит сделать производство значительно более гибким и эффективным.



На заводе Daimler в Зиндельфингене, Баден-Вюртемберг.

В концерне отметили, что Factory 56 оснащен по последнему слову цифровой техники и беспроводной связью по технологии 5G, к тому же завод климатически нейтрален (речь идет о производстве, при котором уровень выброса парниковых газов в атмосферу фактически полностью нейтрализуется за счет высадки лесов и использования современных технологий).

На новом заводе планируется производить все флагманские модели Mercedes, причем не только S-класса, но и Maybach и электромобиль EQS. Factory 56 спроектирован таким образом, что при необходимости в производственный процесс можно интегрировать любые другие модели – от компактных до внедорожников.

В Daimler особо отметили, что открытие завода в Зиндельфингене следует также понимать как приверженность концерна производству продукции на территории Германии.

В целом, Daimler вложил в расширение производства в Зиндельфингене, где задействовано около 35 тысяч человек, около 2,1 миллиарда евро. Только на заводе по выпуску Mercedes S-класса впредь будут ежедневно трудиться в две смены около 1500 человек.

# Экономика ФРГ восстанавливается быстрее, чем ожидало правительство

*Германия внесет определенный вклад в восстановление мировой экономики после кризиса, вызванного пандемией, заявил в интервью DW министр экономики ФРГ **Петер Альтмайер**.*

Экономические показатели Германии за первую половину 2020 года менее драматичны, нежели опасались эксперты. С мая экономика ФРГ находится в фазе подъема, так что среди компаний и их управляющих растет оптимизм, заявил 1 сентября в интервью *DW* министр экономики Германии Петер Альтмайер.

Массивные ограничения, введенные правительством Германии на фоне пандемии коронавируса, привели к беспрецедентному обвалу ВВП страны во втором квартале 2020 года. Тем не менее в беседе с *DW* Альтмайер назвал подход властей к борьбе с пандемией успешным, а принятые правительством меры – трудными, но необходимыми.



Министр экономики ФРГ Петер Альтмайер представил прогноз развития экономики страны после пандемии коронавируса.

В беседе с *DW* Альтмайер отметил, что в условиях глобализации между национальными экономиками по всему миру существует взаимозависимость. Поэтому *«тот факт, что объем мировой, глобальной экономики в этом году сокращается гораздо сильнее, чем 10 лет назад во время банковского и финансового кризиса, вызывает беспокойство»*, указал глава Минэкономики Германии.

Однако, по его словам, текущая экономическая ситуация в Германии позволяет надеяться на то, что второго локдауна можно будет избежать. Согласно промежуточному прогнозу Минэкономики ФРГ, ВВП страны в 2020 году сократится на 5,8 процента. Для сравнения: в апреле министерство опубликовало прогноз, согласно которому вследствие кризиса, вызванного пандемией COVID-19, экономику страны в текущем году ждал спад в объеме 6,3 процента.

Тем не менее сокращение ВВП Германии на 5,8 процента – это самый мощный экономический спад в послевоенной истории страны.

### Прогнозы для экономики ФРГ на 2021 год

В 2021 году, согласно прогнозу, представленному Петером Альтмайером 1 сентября в Берлине, экономика ФРГ вырастет на 4,4 процента. В апреле министерство ожидало роста ВВП в 2021 году на 5,2 процента. Одной из причин ухудшения прогноза Альтмайер назвал сложную ситуацию в мировой экономике, связанную, в частности, с последствиями пандемии в США, которые, в свою очередь, негативно влияют на показатели германского экспорта.

В 2020 году объем экспорта немецких товаров сократится на 12,1 процента, а импорта – на 8,1 процента, говорится в докладе Альтмайера. В то же время, по словам министра, в Германии удалось стабилизировать спрос, в том числе благодаря сокращению налога на добавленную стоимость.

# После марша «коронаскептиков» Берлин обязал носить маски на больших демонстрациях

*Участники демонстраций в Берлине численностью более 100 человек будут обязаны носить маски.*

Такое решение принял сенат Берлина, сообщает немецкое издание *Die Zeit*.

Сенат усилил постановление о защите от инфекций, поэтому в федеральной земле Берлин теперь предусматривается требование носить маску для участников демонстраций с участием более 100 человек.

Защитные средства для рта и носа также необходимо носить на небольших мероприятиях или митингах, когда люди выкрикивают лозунги поют песни.

Такое усиление является реакцией на **демонстрацию** «коронаскептиков», которая состоялась в немецкой столице. Ее участники нарушали требования дистанции и не носили масок, в результате чего полиция распорядилась остановить акцию.

Акция объединила людей, которые считают коронавирус выдумкой, антивакцинаторов и сторонников крайне правых взглядов. Среди демонстрантов были и представители движения «рейхсбюргеров», которые держали в руках черно-бело-красные флаги Германской империи.

Сенатор Берлина по внутренним делам **Андреас Гайзель** заявил, что будет настаивать на обязательности масок для участников демонстраций. По его словам, изменение постановления стало «важным сигналом» для организаторов демонстрации.



ПОЛИТКУХНЯ

# Сергей ЧЕРЕЧЕНЬ: «Независимость Беларусь уже потеряла…»

*«Народная Воля» поинтересовалась, пустили ли Сергея Черечня на Минский моторный завод.*

В начале августа кандидат в президенты Беларуси бизнесмен Сергей Черечень ответил на предложение А.Лукашенко реформировать любое из белорусских предприятий.

*«Если наши кандидаты или вечные эксперты-экономисты, нигде не работавшие, кроме интернет-форумов и телеграм-каналов, знают рецепт, как без социальных взрывов реформировать предприятия, я готов их не только выслушать,* – сказал Лукашенко, обращаясь с посланием к народу и парламенту. – *Более того, обещаю любому дать возможность показать себя на практике. Предприятий предостаточно – крепких, хороших, например, БАТЭ, «Могилевхимволокно», «Белшина», «Камволь» – выбирайте, идите, покажите себя, как вы умеете это делать».*

Черечень отреагировал незамедлительно: заявил, что готов хоть завтра взять развитие Минского моторного завода под свое крыло. Причем вне зависимости от исхода выборов: *«Мы готовы провести комплексный аудит (диагностику) на Минском моторном заводе и дать подробное заключение о деятельности предприятия с указанием проблемных зон. На основании результатов аудита нами будут предложены рекомендации по плану мероприятий и конкретных действий для выхода предприятия из кризиса и повышения его эффективности».*

**– Сергей, получили ли вы ответ на свое весьма конкретное предложение?**

– Да, конечно. Уже неделю ведем переговоры с Министерством промышленности. На этой неделе должна быть трехсторонняя встреча представителей Моторного завода, Минпрома с нашей командой. Пока все хорошо.

**– Расскажите, пожалуйста, подробнее, каким бы вы хотели видеть Минский моторный завод. И почему выбрали именно это предприятие?**

– Изначально специфика компаний, с которыми я работаю, – моторная группа. И я прекрасно понимаю нюансы работы именно этого предприятия. Плюс у меня еще партнеры в Германии, это именитые компании по производству моторных комплектующих. Они готовы приехать в Беларусь и вместе с нами провести аудит завода.

**– Власть охотно откликнулась на вашу инициативу?**

– У нас сейчас идет действительно конструктивный диалог, посмотрим, чем все закончится. Мы ежедневно созваниваемся, пытаемся организовать процесс взаимодействия так, чтобы моя команда пришла на завод. Как ни странно, по словам руководства Минпрома, основной негатив сейчас как раз со стороны руководства самого завода. Они всячески пытаются противодействовать тому, чтобы мы пришли и сделали аудит.

**– Вы лично с министром Петром Пархомчиком общаетесь?**

– Нет, на уровне начальников управлений пока.

**– Вам не кажется, что это не очень серьезно?**

– Я прекрасно понимаю, когда тебя хотят отфутболить и когда на самом деле выстраивают диалог. На этой неделе мы должны встретиться с первым заместителем министра промышленности – он был в отпуске., у нас произойдет трехсторонняя встреча, мы сможем показать профессионализм нашей команды по управлению и построению бизнес-процессов.

**– Не могу не вспомнить историю некогда успешного бизнесмена Александра Муравьева. У него тоже было много всяких хороших бизнес-планов по поводу «Мотовело». Но он, если вы не забыли, уже который год в тюрьме.**

– В конечном итоге Муравьев не выполнил условия инвестиционного договора, им предъявили непосредственно это. В данном случае мы не заходим с коммерческим интересом. Мы идем на Минский моторный завод, чтобы провести аудит и наладить бизнес-процессы. Мне в Минпроме сразу задали вопрос: мол, сколько будет стоить ваш труд? Я ответил: это наша гражданская позиция, и наша команда будет работать безвозмездно. Нам важно показать прогрессивность команды, сформировать историю успеха. Это основная задача. Для нас главное – результат.

**– Вы хотите оставить нынешнего гендиректора завода? Или сами возглавите предприятие?**

– Нет, я не хочу быть гендиректором. Мы хотим показать и исправить ошибки, которые сегодня допускает завод. В прошлые годы я тесно взаимодействовал с этим предприятием и отлично знаю, где у них существенные проколы. Мы хотим дать рекомендации, как все улучшить. И если в процессе аудита мы поймем, что у нас достаточно неплохое взаимодействие с Администрацией президента и Минпромом, если будем видеть, что нам дадут возможность по результатам аудита перестроить работу предприятия, мы, возможно, поставим туда своего кризисного управляющего и будем исполнять тот план, который предоставляем на реализацию. Но это будет видно по ходу пьесы.

Сам я не хочу быть во главе предприятия, у нас достаточно много других глобальных наработок и дел, которые необходимо сделать после президентской кампании. Мы хотим показать ту эффективную работу, новые подходы, которые уже сейчас нужны нашей стране.

Мы не хотим заниматься популистскими вещами, принимать заявления, мы хотим делать совершенно конкретную работу.

**– Сергей, а какое у вас ощущение от всего того, что происходит сейчас в Беларуси? Протесты, лишение доступа независимых медиа к Дому печати и системе распространения, аннулирование аккредитаций для иностранных журналистов, увольнение академика Мрочека, заявления о том, что страну хотят порвать на британский флаг, везде шпионы и враги, не очень внятный Координационный совет… У вас все это складывается в единый пазл?**

– Я пытаюсь очень мягко донести в своем телеграмм-канале и в соцсетях свою позицию, которая многим, кстати, не нравится.



Мне кажется, ситуация простая. После неподписания дорожных карт Российская Федерация заточила зуб на нашу страну и лично на Александра Лукашенко. Многие процессы по раскачке ситуации, которые случились, происходили в том числе и с привлечением российских сил.

Я уверен, что сейчас Беларусь уже не независимая и суверенная. К большому моему сожалению… Есть определенные договоренности, которыми объясняется чрезвычайно уверенное поведение Александра Лукашенко в последнее время. Заметьте: Путин в третий раз на днях заявил, что признает выборы в Республике Беларусь. Такого прецедента никогда не было, чтобы руководитель другой страны столько раз заявлял об одном и том же!

Ситуация по Беларуси решена и, к сожалению, не в нашу пользу.

**– И что дальше? Война? Революция?**

– Мне кажется, ни войны, ни революции быть не должно. Потому что, если сюда зайдут представители российских силовых структур, нам будет нечего им противопоставить. Мы привыкли позиционировать себя спокойной страной. Даже на акциях протеста белорусы убирают за собой мусор, разуваются, перед тем как залезть на лавку.

Да, у нас есть люди, готовые идти на амбразуры. Но их не так много, чтобы противостоять российским силовым структурам. И, повторюсь, Россия уже научена горьким опытом в Украине, поэтому здесь они будут придерживаться договорных отношений 1999 года по Союзному государству, и проведут все в формате двухсторонних отношений между Россией и Беларусью. Будет референдум, изменение Конституции с ограничениями сроков президентского правления, перераспределением ветвей власти и прочее.

Возможно, будет какой-то переходный период – Лукашенко все же не сдается, не хочет уходить под нажимом протестов. Каковы детали этого переходного периода – думаю, мы узнаем в самое ближайшее время. А пока я для себя вижу это как уже состоявшуюся сдачу суверенитета.

**Марина КОКТЫШ.**

З-ЗА КРАТАЎ

# Марыне Адамовіч адмовілі ў спатканні з Міколам Статкевічам

*У следчым ізалятары на Валадарскага палітык дзяліў камеру са смоўжамі. Пра гэта "Народнай Волі" распавяла жонка палітыка. Нагадаем, што Мікалай Статкевіч з канца мая знаходзіцца за кратамі. Ён праходзіць па крымінальнай "справе Ціханоўскага", яго абвінавачваюць у падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак. Уплывовая няўрадавая арганізацыя "Міжнародная амністыя" прызнала Статкевіча вязнем сумлення.*



**– Марына, літаральна днямі вам не дазволілі пабачыцца з мужам – намеснік начальніка ГСУ Следчага камітэта Агафонаў вырашыў, што для спаткання няма падстаў. Вы за ўсе гэтыя месяцы так і не абнялі мужа?**

– Так, ні разу. Нам і раней ніколі не давалі спаткання. Але зараз у мяне ёсць вельмі важкая прычына для сустрэчы – са мной жыве Міколаў бацька, чалавек даволі сталага ўзросту. Але ў Следчым камітэце не лічаць, што гэта важкая падстава для спаткання. Для іх асноўнае ў гэтай справе – ізаляцыя. Каб не быў чалавек на слуху, каб пра яго забыліся, каб не мог ніякім чынам уплываць на палітычныя працэсы.

**– А ліставанне з ім больш-менш рэгулярнае?**

– Яно абсалютна адсутнічала, калі Мікола быў на Валадарцы. Першыя два лісты прыйшлі, і ўсё на гэтым. А калі яго перавялі ў Жодзіна, раптам праз 10 дзён мне оптам прыйшло адразу шэсць лістоў! Гэта было больш за палову таго, што ён мне напісаў. І таксама лісты ад яго атрымалі людзі, якія яму пісалі.

**– Што ён піша асабіста вам?**

– Прыватныя рэчы. У нас вельмі шмат усялякіх узаемных кодаў, якія зразумелы толькі нам дваім. Дастаткова назваць толькі некалькі ключавых слоў, каб стала цёпла ўнутры і ўсё зразумела.

**– Прэсу ён атрымлівае?**

– Я яму выпісала і на Валадарку, і ў Жодзіна ўсе незалежныя газеты, якія выходзяць. Але ж апошнія нумары – іх увогуле падпісчыкам не дастаўлялі. А што далей будзе – не ведаю. У крайнім выпадку давядзецца падпісаць на дзяржаўную газету, будзе аналізаваць інфармацыю.

**– Адвакату дазваляюць сустракацца са спадаром Міколам?**

– Так. У параўнанні з Акрэсціна (цьфу-цьфу-цьфу, каб не сурочыць!) – праблем няма.

**– А нагадайце, калі яго на Валарадку перавялі?**

– 29 чэрвеня, калі працягнулі тэрмін утрымання пад вартай, і у той жа самы дзень, магчыма, перавялі. А ў ноч с 17 на 18 жніўня, пасля Маршаў свабоды, калі людзі прыходзілі на Валадарку, каб падтрымаць палітвязняў, Міколу, Ігара Лосіка і Сяргея Ціханоўскага перавялі ў Жодзіна.

**– Вы пісалі, што на Валадарцы муж завёў смоўжыкаў. Гэта як?**

– Ужо пасля пераводу Міколы ў Жодзіна я даведалася, што на Валадарцы ён сядзеў у падвале ў нейкай вельмі вільготнай камеры, дзе па адной са сцен сачылася вада, і, мабыць, у сувязі з гэтым там завяліся маленькія смоўжыкі. У СІЗА дазваляюць перадаваць гародніну, зеляніну, салату, і ён выкарыстоўваў усё гэта для падкормкі смоўжыкаў. Яшчэ пытаўся ў мяне ў адным з лістоў: маўляў, ты не ведаеш, чым карміць смоўжыкаў?

**– На побытавыя ўмовы скардзіўся?**

– Ён ніколі не скардзіцца. Пісаў, што прэтэнзій да адміністрацыі не мае. І заўважыў, што ў параўнанні з 2011 годам на Валадарцы стала прыкметна больш парадку.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ЛІСТЫ НА ВОЛЮ

### *Пра сітуацыю ў Беларусі:*

...Гэта не надоўга. Сітуацыя будзе мяняцца, бо чаго не хоча ўся краіна (і паказала гэта), таго не будзе.

Але ўражваюць спробы палохаць знешняй "дапамогай". Нават за такія словы можна атрымаць няслаба. Крымінальны кодэкс свой не чытаюць ці што?

*23.08.2020*

### *Пра асобную камеру*

…У СІЗА ў Жодзіне я адразу ж зрабіў вусную заяву пра "пагрозу асабістай бяспецы ад адміністрацыі ўстаноў МУС" і ў адпаведнасці з заканадаўствам запатрабаваў адзіночную камеру. Потым я гэтую заяву прадубляваў пісьмова.

Тут закон выканалі, і мне такую камеру прадаставілі.

Безумоўна, адзіночка не ліквідуе ўсіх пагроз і нават стварае новыя, але яна не дазваляе перакласці адказнасць на пабочных асоб, калі нешта са мной тут здарыцца.

<...> калі ў 2014 і 2015 гадах з мяне вельмі патрэбна было выціснуць прашэнне аб памілаванні, то тады я таксама сыходзіў у адзіночку.

*19.08.2020*

### *Пра перамены*

Па радыё чую, што сёння ў Мінску два мітынгі. Афіцыйны на плошчы Незалежнасці ўжо завяршыўся, а дзясяткі тысяч людзей, якія сабраліся каля стэлы "Горад-герой", ідуць да цэнтра.

Цвёрдасць тых, хто, нягледзячы на гвалт спецназа і масавыя арышты, выходзіў гэты тыдзень пратэставаць, прымусіла ўлады адступіць. Думаю, што тут важную ролю адыгралі рэакцыя беларускага грамадства на гвалт і арышты, а таксама міжнародная салідарнасць. Героям – гонар!

У любым выпадку перамены непазбежныя. І гэта робіцца ўсё больш відавочным.

*16.08.2020*

### *Пра стрэлы і выбухі*

Вельмі турбуюць апошнія падзеі ў краіне.

Тры ночы запар тут чуваць стрэлы, выбухі, крыкі людзей. Шмат хто не можа скарыцца і прыняць тое, што было зроблена з воляй народа.

Самае страшнае, што праліта кроў. Да добрага гэта не прывядзе. Беларусь ужо не будзе такой, як была.

*12.08.2020*

### *Пра вынікі выбараў*

…Вельмі трывожуся за цябе і за людзей. Сёння "выбары", і невядома, што будзе далей, калі народ не прыме афіцыйныя традыцыйныя вынікі.

На жаль, мне ў маёй сітуацыі застаецца толькі малітва. Нават афіцыйныя лічбы магу пабачыць не раней аўторка.

Але ў любым выпадку дасягнута галоўнае – народ аб'яднаўся дзеля перамен. А значыць, усё астатняе толькі справа часу. Не вельмі доўгага часу.

*09.08.2020*

### *Пра вагнераўцаў*

…Прачытаў гэтую мутную гісторыю з затрыманымі расіянамі. Чамусьці ўзгадаліся "замоўленыя мной" штыры і бутэлькі з гаручай вадкасцю, якая, згодна з экспертызай, аказалася незамярзаючай на 15-градусным марозе вадой.

Калі гэта тэндэнцыя захаваецца, то наступным будзе абвінавачванне мяне ў змове з іншапланецянамі з мэтай здаць ім нашу планету. Нашы доблесныя спецслужбы маюць неабходны досвед, каб знайсці "саўдзельнікаў", якія пакажуць, што, насамрэч, яны "зялёныя чалавечкі", якія прыляцелі на лятаючай талерцы з планеты Таў-Кіта ))).

*05.08.2020*

### *Пра знаёмства з Ціханоўскім*

…З апошніх навін – сёння каля 18.00 і без адваката выдалі яшчэ адну пастанову аб узбуджэнні "справы" супраць мяне і Сяргея Ціханоўскага па арт.13 і ч.2 арт.293.

Нібыта мы з ім "в период с не позднее мая 2020 г. по настоящее время.." тыпу рыхтавалі "масавыя беспарадкі". Гэтую справу аб'яднці з папярэдняй.

Гледзячы па ўсім, з гэтай папярэдняй лухтой у іх поўны аблом, і яны яшчэ адну лухту надумалі.

Дарэчы, час падпісання гэтай пастановы – сення ў 4.30. У такі час, мабыць, ад адсутнасці сну і не такое можа прымроіцца. Бо цяпер па ім атрымліваецца, што я не толькі здольны да таемнай тэлепартацыі ў Гродна, але і да тэлепатычных зносін з Ціханоўскім. І турэмныя сцены нам не перашкода. Насамрэч, гэтае трызненне нагадвае спробу запалохвання грамадства шляхам захопу закладнікаў. Здзіўляе толькі адно – колькасць нібыта прыстойных людзей, якія гатовы гэтым займацца.

А гэта ўсё застанецца і для іх нашчадкаў – інтэрнэт захавае. Амаль па- біблейску – "да сёмага калена".

Лішне казаць, што я адмовіўся падпісваць і каментаваць гэтую лухту.

Людзі пішуць у сваіх лістах шмат добрага. У тым ліку як яны змяніліся за апошні час. І гэта вельмі радуе. Значыць, усё, што мы вытрымалі, было недарэмным.

Не ведаю, чым скончыцца гэтая кампанія, але тых, хто ўстаў з каленяў, назад на іх так проста не паставіш.

Беларусы робяцца народам.



ЖАНЧЫНЫ З ЛЕГЕНДЫ

Анатоль БУТЭВІЧ

# І ЗЯМНОЕ ЖЫЦЦЁ НАБЫВАЕ СВЯТАСЦЬ

*(Працяг. Пачатак у №№63,65,67,69.)*

Заўсёды, калі прыходжу ў Свята-Духаў кафедральны сабор у Мінску, спыняюся каля ракі з мошчамі святой праведнай Сафіі княгіні Слуцкай.

Да гэтых людзей у мяне асаблівыя адносіны. Найперш здзіўленне: некалі яны жылі побач з такімі ж, як самі (выключэнне хіба што манахі), займаліся звычайнымі справамі, аддаваліся сямейным клопатам, будзённа выконвалі ўсе іншыя неабходныя ў жыцці абавязкі, як і іншыя, грашылі. І раптам сталі святымі. А ці раптам? Ці не сведчыла іхняе зямное жыццё пра падрыхтоўку да жыцця нябеснага? Было яно прысвечана таму, што і склала ўрэшце прызнаную святасць. Гэта ж якую высокую духоўнасць, нязломную веру, спагадлівасць, душэўную чысціню і шчодрасць, якое спрыянне іншым людзям, якое шчырае раскаянне ў сваіх грахах трэба было мець, каб Бог вылучыў іх з агульнай масы, спадобіў далучыцца да нябесных жыхароў!


Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

У Беларусі з ініцыятывы Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта ў 1984 годзе быў устаноўлены Сабор Беларускіх святых. Сёння ў гэтым спісе 79 угоднікаў Божых. Тых, хто некалі дбайна апекаваўся нашай зямелькай і хто сёння з'яўляецца шчырым нябесным малельнікам за яе лёс. Сярод гэтых нябесных руплівіцаў ёсць і жанчыны. Найперш, вядома, прападобная Еўфрасіння – ігумення Полацкая, якая стала апякункай зямлі беларускай. А таксама праведная дзева Юліянія – князёўна Гальшанская, з таго самага роду Гальшанскіх, які даў Еўропе каралеву польскую Соф'ю, пачынальніцу разам з Ягайлам знакамітай каралеўскай Ягелонскай дынастыі. Прападобная Манефа Гомельская. Святая блажэнная Валянціна Мінская.

У гэтым пашаноўным спісе знаходзім імя святой праведнай Сафіі, княгіні Слуцкай. Надзвычай цікавы і складаны лёс выпаў гэтай жанчыне. Нарадзілася Сафія 1 мая 1586 года ў сям'і праваслаўнага ўдзельнага слуцкага князя Юрыя III Юр'евіча з роду Алелькавічаў і Барбары з роду Кішкаў. Бацька быў у ліку нашчадкаў вялікага князя літоўскага Гедыміна – аб'яднальніка вялікалітоўскіх зямель і заснавальніка Вільні. Сама яна – унучка Настассі Слуцкай, той самай гераіні, якую сучаснікі за вайсковую адвагу, кемнасць, настойлівасць і мужнасць у збройнай абароне сваёй зямлі ад назойлівых захопнікаў называлі Жаннай д'Арк.

Прадзедам Сафіі ў шостым калене быў вялікі князь літоўскі Вітаўт Вялікі, а ягоная дачка Соф'я Вітаўтаўна – прабабуляй Сафіі ў пятым калене. Яшчэ адзін цікавы штрых: дачка Соф'і Вітаўтаўны і яе мужа вялікага князя маскоўскага Васіля II Дзмітравіча Настасся была замужам за слуцкім князем і заснавальнікам княскай дынастыі Алелькавічаў герба "Пагоня" Аляксандрам Уладзіміравічам Алелькам. Яны таксама, як маглі, спрыялі праваслаўю. Сведчаннем гэтага застаўся запіс на старонцы Лаўрышаўскага Евангелля, які паведамляе, што князь Аляксандр Уладзіміравіч, ягоная жонка княгіня маскоўская Настасся і іхнія дзеці перадалі Лаўрышаўскаму манастыру дзесяціну са сваіх уладанняў у Турцы. І гэта не адзіны такі прыклад.

А яшчэ Слуцкія мелі сваю родавую пахавальню ў Кіева-Пячэрскай лаўры, рабілі ёй шчодрыя ахвяраванні. Мо таму, што заснавальнік роду Алелька Аляксандр Уладзіміравіч акрамя ўсяго 15 гадоў з'яўляўся кіеўскім князем. Калі Аляксандр памёр, уладаром Кіеўскага княства стаў яго старэйшы сын Сямён. Пры ім адбывалася сапраўднае адраджэнне Кіева, пасля вельмі доўгага запусцення быў адноўлены Успенскі сабор Кіева-Пячэрскай лаўры, якому Сямён зрабіў шмат каштоўных падарункаў.

Бачыце, як усё само сабой звязвалася ў гісторыі, якія ніці ядналі высокапасадныя сем'і, злучалі сваяцкімі повязямі самыя далёкія землі. Дык мо менавіта тыя годныя і трывалыя традыцыі дапамагалі слуцкім князям заўсёды заставацца самімі сабой, праводзіць сваю, карысную для іх і іхняй зямлі, палітыку. Часта нават насуперак высокаўладным загадам.

Гэта датычыць і рэлігійнага жыцця, якое не было простым на нашых землях. У XVI стагоддзі Слуцкае княства, якое належала князям Алелькавічам Слуцкім, заставалася ледзь не адзіным астраўком, дзе захоўвалася і аберагалася праваслаўе. Аберагалася не на словах, не па загадзе, а па ўнутранай патрэбе. Каб людзі маглі і мелі дзе свабодна выяўляць свае рэлігійныя пачуцці, князі Алелькавічы не шкадавалі і сваіх уласных сродкаў. Пры іх у Слуцку было збудавана 14 цэркваў.

У 1580 годзе будучы бацька Сафіі 21-гадовы Юрый III Алелькавіч, яшчэ нежанаты, распачаў незвычайную для князя і свецкага чалавека і надта клапатлівую справу. Відаць, дзеля ўласнага пакаяння задумаў ён уласнаручна перапісаць старонкі Святога Евангелля. Патрабавалася не толькі майстарскае ўмельства, але і вялікая цярплівасць, настойлівасць, перакананасць у справядлівасці і патрэбнасці іншых сваіх намаганняў. Праз два гады праца была скончана, 263 старонкі перапісаны, і Юрый перадаў Евангелле Слуцкаму Свята-Троіцкаму манастыру. Шмат стагоддзяў гэтае рукапіснае Евангелле блукала па свеце, лёс яго заставаўся невядомым. І толькі ў 2003 годзе яно было яўлена вернікам і зараз захоўваецца ў дамавым храме ў гонар Сабора Беларускіх святых Беларускага экзархата ў Мінску. Сімвалічны знак: плён руплівай працы бацькі слуцкай княгіні Сафіі знаходзіцца ў гэтым храме побач з выявай ягонай дачкі – святой зямлі беларускай.

Звярніце ўвагу: увесь час у далёкім і блізкім атачэнні Сафіі былі людзі з іменем Юрый. Князі слуцкія: бацька Сафіі Юрый III Юр'евіч; ягоны бацька Юрый II Юр'евіч; бацька Юрыя II, дзед Юрыя III Юрый I Сямёнавіч меў шлюб з дачкой Івана Юр'евіча Мсціслаўскага. Апякун Сафіі Юрый Хадкевіч – сын кашталяна трокскага Юрыя Аляксандравіча Хадкевіча і князёўы Сафіі Юр'еўны Слуцкай. Дык мо яе апякаў і вёў па жыцці той самы Юрый (Георгій) Перамаганосец, які стаў шанаваным хрысціянскім святым? Дарэчы, у Слуцку мелася царква Святога Георгія.

6 мая 1586 года апошні князь з роду Алелькавічаў 26-гадовы Юрый III Юр'евіч памёр. Сафія, якая пражыла з бацькам усяго пяць дзянёчкаў, стала гаспадыняй Слуцкага ўдзельнага княства. Да гэтага адзінага ў сям'і немаўляці перайшлі неверагодныя багацці. Во дзе было зайздрасці ў прыхільнікаў праз шлюб завалодаць імі!

Імя Сафія азначае "мудрасць". У праваслаўі Сафія шануецца як Прамудрасць Божая. У яе гонар будавалі храмы, пісалі абразы. У Бібліі вобраз Сафіі – Прамудрасці Божай таксама займае асаблівае месца. Мо таму і Сафія Слуцкая змалку вызначалася асаблівай развагай. Свае юныя гады яна праводзіла ў Бярэсці, Навагародку, Слуцку, Вільні, Цімкавічах. Часта яе вазілі ў Супрасльскі праваслаўны манастыр, які быў заснаваны ў 1498 годзе маршалкам гаспадарскім, ваяводам навагародскім Аляксандрам Хадкевічам. Праз усё гэта слуцкая князёўна і набіралася жыццёвай мудрасці.

Але сталася так, што ў 1591 годзе памёр дзядзька Сафіі Аляксандр Юр'евіч, а праз год – другі дзядзька Іван Юр'евіч. У спадчыну да князёўны перайшлі і іхнія ўладанні. Пад яе ўладай аказаліся Слуцкае і Капыльскае княствы. Маці ж Сафіі Барбара выйшла замуж за гомельскага старасту Андрэя Сапегу. Згодна з тадышнімі традыцыямі, маці магла быць апякункай сваіх дзяцей толькі да моманту наступнага шлюбавання. Вось чаму апекавацца Сафіяй і яе без перабольшання велізарнымі багаццямі пасля замужжа Барбары стаў стрыечны брат ейнага бацькі жмудскі староста і маршалак Трыбунала ВКЛ Юрый Юр'евіч Хадкевіч, які належаў да Супрасльскай галіны роду. Да другой паловы XVI стагоддзя род быў праваслаўным, затым ягоныя прадстаўнікі перайшлі ў кальвінізм, пазней сталі каталікамі. Хоць і пасля гэтага некаторыя Хадкевічы захоўвалі вернасць праваслаўю.

Пасля смерці апекуноў Сафіі Слуцкай паміж Хадкевічамі і магутным магнацкім родам Радзівілаў прабегла чорная кошка. Хадкевічы завінаваціліся Радзівілам вялікую суму грошай. Аддаваць іх не было не толькі магчымасці, але і вялікага жадання. І, каб кампенсаваць доўг ды заручыцца падтрымкай магутнага магнацкага роду ў сваіх далейшых справах, Хадкевічы прапанавалі Радзівілам шлюб з Сафіяй Слуцкай. У прадстаўніка біржайскай лініі Радзівілаў ваяводы віленскага, падканцлера літоўскага, гетмана вялікага літоўскага князя Крыштофа Мікалая Радзівіла па мянушцы Пярун і ягонай другой жонкі Кацярыны Астрожскай быў сын Януш – прапраўнук слуцкага князя Сямёна Міхайлавіча Алелькавіча, праўнук Аляксандры Сямёнаўны Алелькавіч і Канстанціна Іванавіча Астрожскага. Нарадзіўся 21 ліпеня 1579 года ў Вільні, яго хросным бацькам стаў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый. Януш быў самым багатым тагачасным магнатам. Вось на яго і зрабілі стаўку Хадкевічы.

Не, я не агаварыўся – не Януш, не сама Сафія, а апекуны вырашалі за іх. 31 ліпеня 1595 года ў Бераставіцы Хадкевічы і Радзівілы падпісалі пагадненне аб тым, што Сафія стане жонкай Януша Радзівіла. Праўда, з важнай папраўкай: калі сама яна будзе на тое згодна. Адбыцца ж шлюбаванне павінна 6 лютага 1600 года. Сафіі тады было б 15 гадоў, Янушу – 21 год. Мала цікавіла Хадкевічаў і тое, што будучыя муж і жонка з'яўляліся сваякамі, а Януш, акрамя ўсяго, стаў ужо кальвіністам. Лічылі, што Папа Рымскі дасць дазвол, як бывала гэта не раз. Дарэчы згадаць, што за год да падпісання шлюбнай дамовы пляменніца Крыштофа Радзівіла Перуна дачка ваяводы навагародскага Мікалая Радзівіла Сафія выйшла замуж за апекуна Сафіі Слуцкай Юрыя Хадкевіча. Але неўзабаве ён памёр, і апекавацца княжной Сафіяй стаў яго брат берасцейскі староста Геранім Хадкевіч.

Ды тут пачаліся новыя маёмасныя непаразуменні. Супрацьстаянне Хадкевічаў і Радзівілаў набірала моцы. Вядомая справа, дзе вялікія грошы, там і вялікая сварка. Запахла нават узброенай сутычкай. Хадкевічы сабралі свае найлепшыя сілы. У Радзівілаў таксама не бракавала ні зброі, ні тых, хто ўмеў трымаць яе ў руках. Не толькі ў цэнтры Княства, а ў самым цэнтры ягонай сталіцы Вільні вось-вось магла ўспыхнуць самая сапраўдная вайна. Пра гэтыя трагічныя старонкі ў адносінах паміж Хадкевічамі і Радзівіламі нават напісаны твор на польскай мове. Яго аўтар – дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, ваявода Берасцейскі з 1588 года Крыштоф Юр'евіч Зяновіч. Трактат называецца "Трагедыя, альбо Пачатак значнага заняпаду ў доме Княства Літоўскага".

Але раптоўна сітуацыя змянілася. 1600-ы год аказаўся насычаным рознымі нечаканымі прыгодамі. Калі спачатку Сафія не згаджалася на шлюб, дык нечакана памяняла сваё рашэнне. У красавіку адбыліся заручыны Сафіі і Януша, прызначылі дату вяселля. Не, не каханне стала прычынай. Пра яго не думаў Януш, які прызнаваўся, што насуперак сваім жаданням не меў магчымасці сустракацца з Сафіяй тады, калі хацеў бы. Пастараліся дамоўныя бакі. Хадкевічы не хавалі радасці – іх не цікавіў шлюб па каханні, яны не надта дбалі пра сямейны лад іншых, іх найперш клапаціў уласны дабрабыт. З улікам блізкага шлюбавання Радзівілы спісалі Хадкевічам доўг і нават паабяцалі выплаціць дадатковую суму. Але не тое сталася, аб чым дамаўляліся. Шлюбаванне давялося адкласці.

І толькі ў нядзелю 1 кастрычніка 1600 года ў Брэст-Літоўску, дзе жылі Хадкевічы, адбылося вянчанне. Як сведчаць радкі Жыція Святой Сафіі: "Во имя мира приняла Святая подвиг крестоношения в браке". Аказалася, гэты шлюб не стаў ратавальным для ўсіх Хадкевічаў. У іхнім асяроддзі набірала моцы супраціўленне тых, хто ад гэтага не выйграў нічога, бо не ўсе маёмасныя пытанні на той час былі ўрэгуляваны. Асабліва пакрыўджаныя і падманутыя ў сваіх спадзяваннях нават падавалі на Гераніма ў суд. Непрыемныя разборкі доўжыліся ажно 5 гадоў.

А Сафія і Януш насуперак усяму паціху ладзілі сваё сямейнае жыццё. Згодна з ранейшай дамовай, Сафія не выраклася праваслаўя. Муж не супраціўляўся гэтаму. Больш за тое, ён згадзіўся, што маючыя быць іхнія дзеці таксама застануцца праваслаўнымі. Пазней, каб пазбыцца розных нечаканасцяў, Сафія ўгаварыла мужа ўзяць у караля ахоўную грамату, сэнс якой зводзіўся да таго, што іхніх падданых не будуць змушаць далучацца да царкоўнай Берасцейскай уніі 1596 года, яны застануцца праваслаўнымі.

Дарэчы згадаць, што шваграм Януша Радзівіла быў знаны дзяржаўны дзеяч ВКЛ Леў Сапега. У 1599 годзе 42-гадовы Леў Іванавіч пашлюбіўся з 16-гадовай дачкой Крыштофа Мікалая Радзівіла Перуна Галшкай (Лізаветай).

Ды не заставаўся ўбаку ад дзяржаўных клопатаў Януш Радзівіл. Не паспелі маладажоны нацешыцца сямейным жыццём пасля вяселля, як муж на чале літоўскіх гусараў вырушыў на вайну са Швецыяй, у якую ўжо актыўна ўключыўся на чале польскіх войскаў ягоны бацька. І толькі ў студзені 1601 года Януш змог вярнуцца да жонкі. Аднак і пазней ён мусіў часта адлучацца са Слуцка. То з сябрамі выпраўляўся на забавы, то ездзіў на ловы, то падарожнічаў па замежных краінах, то дзяржаўныя справы клікалі ў дарогу, нават ваяваць даводзілася за межамі сваёй зямлі. Як згадваецца ў Жыціі святой Сафіі, Януш меў характар вясёлы, энергічны, нават авантурны. Аднак быў ён адукаваны, займаў высокае грамадскае становішча, паважліва ставіўся да жонкі, падзяляў яе погляды, падтрымліваў праваслаўныя ініцыятывы. Не раз выдаваў Януш граматы ў падтрымку праваслаўных цэркваў і манастыроў. Тройчы будучы паслом у сейме, уваходзіў там у праваслаўную дэпутацкую групу, каб абараняць правы некаталікоў.

Сафія ж сваімі рукамі вышывала рызы для святароў. Разам з мужам актыўна займалася дабрачыннай дзейнасцю. У Бабруйскім павеце, напрыклад, на сродкі Сафіі быў узведзены Пакроўскі храм. Муж не замінаў намерам Сафіі. А пасля яе смерці побач са старым замкам пабудаваў Сафійскую царкву. У адной з грамат ён пісаў: "Церкви и монастыри религии старорусской в имениях моих по-прежнему должны быть сохраняемы, и потомки мои должны соблюдать, дабы не последовало в том никакой перемены".

Пражыла Сафія – апошняя з роду князёў Слуцкіх – амаль 26 гадоў, а калі зазірнуць у некаторыя сведчанні, то 25 гадоў, 10 месяцаў і 8 дзён. Заснула вечным сном 19 сакавіка 1612 года падчас трэціх родаў. Ніводнае з яе дзіцятак не выжыла. Тадышні паэт-лацініст паходжаннем з Полацкага ваяводства і сябар Януша Радзівіла Саламон Рысінскі ў сувязі з гэтым назваў Сафію апошняй зорачкай у сузор'і Слуцкіх:

*Звёздочка! Ты сохранилась в созвездии Слуцком едина*

*Между литовскими славой ярчайшая, первая дочь!*

*Разве ты менее рыцарь, чем гордый супруг твой великий?*

*Сила какая, нагрянув нежданно, тебя унесла?*

Усе ўладанні Сафіі, у тым ліку Слуцкае і Капыльскае княствы, перайшлі да Радзівілаў. Муж Януш моцна сумаваў. На жаль, ніхто з іхніх дзетак не выжыў. Пахавалі Сафію ў замкавай Свята-Троіцкай царкве Слуцка, побач з месцам спачыну яе бацькі Юрыя Юр'евіча. А спакутаваны горам Януш Радзівіл усталяваў памятную жалобную пліту і ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Захоўваючы памяць пра жонку і яе добрыя справы, муж выдаў граматы, якімі абавязаў нашчадкаў не парушаць праваслаўныя традыцыі Слуцкага княства.

Амаль адразу пасля смерці Сафіі яе пачалі шанаваць як святую, якая спрыяе хворым жанчынам, што чакаюць родаў. У 1848 годзе яна ўратавала Слуцк ад халеры – хросны ход з мошчамі святой Сафіі дапамог адвясці ад горада бяду.

Сведчаць, што Сафія разам з Уллянай Гальшанскай з мэтай абароны дагматаў праваслаўя была кананізавана ў той час, калі мітрапалітам Кіеўскім, Галіцкім і ўсяе Русі з 1633 года быў Пётр Магіла. Аднак датай афіцыйнай кананізацыі лічыцца 3 красавіка 1984 года. Яе памяць ушаноўваюць 19 сакавіка (1 красавіка). У Слуцку ў 2000 годзе з'явіўся помнік святой Сафіі. А ў 2009 годзе ў Мінску ўздведзены першы на свеце храм у гонар святой Сафіі Слуцкай, побач з якім устаноўлены помнік ёй.

Януш Радзівіл 7 ліпеня 1613 года ажаніўся ў Берліне з Лізаветай Соф'яй (выпадковасць ці знарочысты выбар жонкі па імені?) Брандэнбургскай, дачкой брандэнбургскага курфюрста. У іх нарадзіліся дзве дачкі і два сыны. Памёр Януш ў 1620 годзе – на 41-м годзе жыцця.

*(Працяг будзе.)*

З НАГОДЫ

# Гродзенскія католікі моляцца за свайго мітрапаліта

*Каля сотні грамадзян днямі сабраліся каля ўваходу ў Фарны касцёл у Гродне і разам з ксяндзом Дзянісам Бразінскім чыталі сумесную малітву ў падтрымку мітрапаліта Мінска-Магілёўскага архіепіскапа Тадэвуша Кандрусевіча.*

Такім чынам людзі выказвалі сваю заклапочанасць тым, што мітрапаліта Кандрусевіча беларускія ўлады без тлумачэння прычын не пусцілі ў краіну, калі ён вяртаўся з Польшчы. Дзяржаўны пагранічны камітэт так і не даў ніякіх тлумачэнняў наконт гэтага інцыдэнту.

Дарэчы, мітрапаліт Кандрусевіч з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь і ніякага іншага грамадзянства не мае.

У нядзелю кіраўнік Каталіцкай царквы Беларусі даў інтэрв'ю польскаму хрысціянскаму тэлеканалу *TV Trwam*. Некаторыя яго выказванні апублікаваў партал *catholic.by*.

На думку мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, *"ёсць падставы меркаваць, што выбары праходзілі несумленна. Касцёл у Беларусі хоча мірнага вырашэння. Я заклікаў да пакаяння ўсіх тых, хто быў вінаваты, бо гэта так, і мы не адны. Каталіцкі касцёл і Праваслаўная царква выступаюць разам"*.

Яшчэ раней мітрапаліт Кандрусевіч звяртаўся да Аляксандра Лукашэнкі і ўсіх структур беларускай улады:

"Пралітая на вуліцах нашых гарадоў кроў, збіццё мірных дэманстрантаў, якія хочуць ведаць праўду, жорсткае абыходжанне з імі і ўтрыманне ў нечалавечых умовах за кратамі – цяжкі грэх на сумленні тых, хто аддаваў злачынныя загады і тварыў насілле.

Усё гэта вядзе да дэстабілізацыі і падзелу нашага грамадства. Колькі часу – магчыма, не адно пакаленне – спатрэбіцца для таго, каб залячыць нанесеныя ў выніку парушэння праўды раны, калі брат падняў руку на брата!

Таму перад намі цяжкі і няпросты шлях пакаяння, духоўнага і маральнага ачышчэння, без чаго немагчыма пераадоленне сацыяльна-палітычнага крызісу".

Мітрапаліт Кандрусевіч заклікаў улады пачаць канструктыўны дыялог з грамадствам, спыніць насілле і вызваліць усіх затрыманых на мірных акцыях нявінных грамадзян.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# «Верым, што ў Беларусь вернецца сонца…»

*Футбалісты футбольнага клуба "Крумкачы" выказваюць сваю грамадзянскую пазіцыю.*

Клуб практычна адразу пасля выбараў, калі па краіне прайшла хваля гвалту ў дачыненні да грамадзян, звярнуўся да ўсіх беларусаў:

*"Сябры, у апошні час футбол для ўсіх нас адышоў на другі план. У нашай краіне адбываюцца жахлівыя і недапушчальныя падзеі.*

*Мы выступаем супраць гвалту і антызаконных дзеянняў з любога боку. Апамятайцеся! Усе мы суайчыннікі і грамадзяне адной прыгожай краіны. І кім бы мы ні былі, якія б ролі ні выконвалі – заўсёды трэба памятаць пра гэта.*

*Мы выказваем падтрымку ўсім затрыманым і іх родным і жадаем хутчэй вярнуцца на свабоду. Верым, што неўзабаве гэты цёмны час скончыцца і ў Беларусь вернецца сонца!"*



Праз нейкі час ігракі гэтай каманды, якая выступае ў 1-й лізе, выйшлі на матч з "Хімікам" у футболках з надпісам "Мы з народам. Футбол для гледачоў", за што адразу атрымалі "жоўтую картку" ад Беларускай федэрацыі футбола.

У рапарце пасля гульні было адзначана, што "Крумкачы" *"змянілі цырымонію правядзення матчу, не ўзгадніўшы гэта з афіцыйнымі асобамі".*

Але гэта былі яшчэ "кветачкі". 30 жніўня ў цэнтры Мінска былі затрыманы футбалісты **Сяргей Казека** і **Павел Расолька**. Казека пры затрыманні быў моцна збіты, пашкоджаны хрыбет і ныркі. Затым высветлілася, што як быццам затрымалі іх выпадкова, пераблыталі.

Напярэдадні матча 1/16 фіналу Кубка Беларусі з мінскім "Дынама" клуб "Крумкачы" зрабіў яшчэ адну заяву:

*"Паважаныя сябры, заўзятары і проста неабыякавыя да клуба людзі! Павел Расолька і Сяргей Казека нарэшце выйшлі на волю, крымінальная справа ў дачыненні да іх спынена. За гэты час клуб убачыў неверагодную хвалю салідарнасці. Мы атрымалі вялікую колькасць цёплых слоў і прапаноў дапамогі. Гэты факт яшчэ раз пацвярджае, які ж цудоўны і дружны беларускі народ!*

*…Сродкі ад продажу квіткоў на матч "Крумкачы" – "Дынама-Мінск" (адзін білет каштуе 3 рублі) мы накіруем на дапамогу пацярпелым ад гвалту суайчыннікам".*

На размінку перад гэтай гульнёй "Крумкачы" выйшлі ў майках з надпісамі "Мы супраць гвалту" і "Расолька, Казека ... і іншыя", а матч атрымаўся такім жа незабыўным, як і многае тое, што сёння адбываецца ў краіне. У выніку шыкоўная перамога "Крумак" над "Дынама" з лікам 2:0!

*"Я так разумею, што з усіх футбольных клубаў яйкі і характар толькі ў "Крумкачоў". Дзякуй!"* – напісала вядомы блогер **Ганна Бонд**.

*"Футбол аказаўся камандным відам спорту, у якім кожны сам за сябе,* – больш далікатна выказалася ў "Інстаграме" былы прэс-сакратар брэсцкага "Дынама" **Вольга Хіжынкова**. – *За выключэннем двух каманд, некалькіх асобных ігракоў, трэнераў і менеджараў".*

– Пакуль дакладна не вядома, колькі грошай сабрана пасля продажу білетаў на матч "Крумкачы" – "Дынама", – распавёў "Народнай Волі" прэс-сакратар клуба **Сяргей ЮЖЫК**. – Стадыён, на якім праходзіў матч, змяшчае 1500 гледачоў, столькі ж квіткоў, відаць, і купілі. Але варта дадаць, што многія купілі яшчэ і віртуальныя квіткі, хаця самі на матч не прыйшлі. Проста захацелі дапамагчы людзям, якія пацярпелі ад рук праваахоўнікаў.

А ўвогуле на той матч прыйшлі каля 2 тысяч балельшчыкаў, бо многія стаялі за трыбунай.

**– Гэтым разам за надпісы на майках федэрацыя ніякіх прэтэнзій не прад'яўляла?**

– Ва ўсялякім разе ў пратаколе нічога не было запісана. Таму пакуль ніякіх папярэджанняў не маем, хаця мы зараней сказалі, у якіх майках футбалісты выйдуць на размінку.

**– Як зараз пачуваюць сябе пацярпелыя ад міліцыі футбалісты Павел Расолька і Сяргей Казека?**

– Сяргей працягвае праходзіць медыцынскі агляд, а ў Паўла траўмы не такія сур'ёзныя. Ён наогул гатовы быў гуляць у матчы з мінскім "Дынама".

**– Вядомы беларускі футбаліст Віталь Кутузаў, які гуляў за італьянскі "Мілан", заявіў, што гатовы ўзяць на сябе ўсе выдаткі на лячэнні і рэабілітацыі Сяргея Казекі…**

– Калі чалавек шчыра хоча дапамагчы, то навошта адмаўляцца ад працягнутай рукі? Тым больш што ў Кутузава добрыя сувязі ў Італіі, там добрая медыцына… Магчыма, што Сяргей і скарыстаецца прапановай, бо медыкі сказалі, што на яго аднаўленне пойдзе як мінімум месяц.

**Алесь СІВЫ.**

МАЗАІКА

## Даты прызначаны

*Сталі вядомы даты футбольных еўракубкавых матчаў брэсцкага "Дынама" і барысаўскага БАТЭ.*

"Дынама" ў рамках трэцяга кваліфікацыйнага раўнда Лігі чэмпіёнаў згуляе на выездзе з "Макабі" з Тэль-Авіва 16 верасня.

БАТЭ сустрэнецца ў гасцях з сафійскім ЦСКА 17 верасня. Гэта будзе гульня другога раўнда кваліфікацыі Лігі Еўропы.

## Хто фаварыт у КХЛ?

*Былы галоўны трэнер мінскага хакейнага "Дынама" і зборнай Беларусі **Андрэй Сідарэнка** назваў фаварытаў новага сезона Кантынентальнай хакейнай лігі.*



Паводле слоў хакейнага спецыяліста, ва Усходняй канферэнцыі лідарамі будуць "Ак Барс" з Казані і омскі "Авангард".

*"На "Захадзе" вельмі цікава будзе паназіраць за СКА,* – дадае Андрэй Сідарэнка. – *На вынік акажа вялікі ўплыў гульня маладых хакеістаў. ЦСКА павінен застацца на ранейшым узроўні, нават нягледзячы на сыход групы лідараў. Вельмі высокі патэнцыял таксама ў маскоўскіх "Спартака" і "Дынама".*

## «Я свой выбар зрабіў…»

*Былы генеральны сакратар НАК Беларусі **Анатоль Котаў**, які з'яўляўся таксама намеснікам дырэктара фонду "Дырэкцыя II Еўрапейскіх гульняў – 2019", звольніўся з Упраўлення справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

*"Мяне звольнілі дастаткова спакойна і сумленна, – паведаміў Анатоль Котаў. – Я не ведаю, як вы спіце па начах… Катаванняў і забойстваў не было, хаця, на жаль, нават ААН пацвердзіла іншае. Грамадзянам Беларусі можа быць адмоўлена ва ўездзе ў сваю краіну. Я свой выбар зрабіў. У нікуды. З крэдытамі і іншымі стандартнымі рэчамі. Цяпер я авечка і наркаман".*



## Шлях дадому

*Беларускі футбаліст **Мікіта Корзун** заключыў кантракт з салігорскім "Шахцёрам".*

Гарнякі выкупілі правы на футбаліста ў кіеўскага "Дынама". Тэрмін пагаднення Корзуна з салігорскім клубам разлічаны да канца 2023 года.

СИТУАЦИЯ

## Почему Сергей Герасимец отказался презентовать форму сборной Беларуси?

*На этой неделе на столичном стадионе «Динамо» состоялась презентация новой игровой формы национальной сборной Беларуси по футболу.*

**Сергей Герасимец** – лучший футболист страны 1993 года – рассказал *by.tribuna.com*, почему не захотел участвовать в этом мероприятии.

*«Недавно представители Белорусской федерации футбола обратились ко мне с просьбой сняться в рекламном ролике для презентации новой формы сборной,* – говорит Сергей. – *Я отказал. Мотивировал свой отказ тем, что не могу светиться на экранах в момент, когда белорусский народ страдает. Это моя позиция.*

*Очевидно, руководство федерации выступает за поддержку нынешнего руководства. Но если взять по отдельности работников этой организации, то позиция большинства будет схожа с моей. Где-то понимаю людей, не осуждаю их. Один из сотрудников федерации прямо сказал мне: «Ваш отказ от съемок – это подержка нам».*

*Понимаете, та же федерация футбола состоит из людей, а не из роботов. Они же видят, что происходит в обществе. Думаю, в душе каждого работника позиция схожа с моей, но люди просто боятся ее высказать».*

Сергей Герасимец отмечает, что в нынешней ситуации каждый решает сам, высказывать ли публично свои взгляды.

*«Для меня важно, что я обозначил свою позицию и позицию своей семьи,* – добавляет именитый футболист. – *Можно сказать, камень с души упал. Не хочу находиться в стороне. Я очень люблю Беларусь. К сожалению, практически не работал в этой стране после завершения карьеры. Наверное, после этого интервью уже не буду работать. Но я выразил свое мнение и ни о чем не жалею.*

*Очень хочу, чтобы белорусы жили в добре и были счастливы. Уверен, этот народ не заслуживает, чтобы над ним так издевались».*

ПАЗІЦЫЯ

## Надзея АСТАПЧУК: «Можа, і ёсць тыя, каму падабаецца, калі людзей збіваюць»

*Вядомая лёгкаатлетка распавяла "Народнай Волі" пра тое, як нарадзілася ініцыятыва аб стварэнні Свабоднага аб'яднання спартсменаў Беларусі.*

Каля 400 беларускіх спартсменаў паставілі свае подпісы пад лістом, у якім катэгарычна асудзілі шматлікія факты фальсіфікацыі вынікаў выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама правы грубага гвалту з боку сілавых структур у дачыненні да мірна пратэстуючых грамадзян.

*"У выпадку з'яўлення інфармацыі аб спробах ціску, пагроз звальнення або парушэння правоў прадстаўнікоў спорту, якія падпісаліся пад гэтым лістом, усе спартсмены будуць дзейнічаць салідарна аж да магчымай адмовы ад выступлення за нацыянальную зборную краіны або адмовы ад арганізацыі міжнародных і нацыянальных спартыўных мерапрыемстваў,* – папярэдзілі падпісанты. – *Акрамя таго, дадзеныя факты неадкладна будуць накіраваны ў Міжнародны алімпійскі камітэт".*



Таксама некаторыя прадстаўнікі спартыўнай галіны заявілі аб стварэнні Свабоднага аб'яднання спартсменаў Беларусі. Гэта вядомая баскетбалістка **Алена Леўчанка**, трохразовая прызёрка Алімпійскіх гульняў па плаванні **Аляксандра Герасіменя**, член нацыянальнай каманды па баскетболе **Мікіта Мешчаракоў**, лёгкаатлетка **Надзея Астапчук**…

*"Я – трохразовая прызёрка Алімпійскіх гульняў, чэмпіёнка свету і Еўропы па плаванні,* – заявіла **Аляксандра Герасіменя**. – *Спорт – гэта не прафесія, а лад жыцця. І ўсе спартыўныя прынцыпы працуюць і ў жыцці. Сіла волі, гонар, адвага – неад'емная частка кожнага з нас. Гэта тое, што прыводзіць да перамогі. Чыста і сумленна.*

*За парушэнне гэтых прынцыпаў вылятаюць са спаборніцтваў або – горш за тое – з каманды. Не можаш прытрымлівацца іх у жыцці – табе не месца ў спорце.*

*У гэты вырашальны момант для жыцця нашай краіны, нашага народа кожны беларускі спартсмен павінен задаць сабе пытанне: "Ці варты я адстойваць гонар краіны, калі не магу адстаяць свой гонар?"*

– Пасля таго як спартсмены падпісаліся пад лістом, многія паміж сабой перапісваліся ў сацыяльных сетках, – кажа **Надзея Астапчук.** – Так міжволі і ўзнікла ідэя аб стварэнні Свабоднага аб'яднання спартсменаў Беларусі. Хаця, як мне падаецца, гэта пакуль толькі ініцыятыва аб намерах. Людзі яе падтрымалі, але пакуль дакладна не вядома, як яна будзе развівацца далей. Трэба глядзець, колькі чалавек падтрымае ініцыятыву.

**– На ваш погляд, чаму сёння многія спартсмены занялі пазіцыю "мая хата з краю"?**

– У кожнага чалавека, напэўна, свае прычыны прымаць тыя ці іншыя рашэнні, і я не магу адказваць за ўсіх. Магчыма, некаторыя шчыра вераць у нейкія свае ідэалы, хтосьці ўсё разумее, але трымаецца за стаўку ў Міністэрстве спорту, а таму баіцца публічна выказваць сваю пазіцыю. Можа быць, ёсць і тыя, каму падабаецца, калі людзей збіваюць.

**– Але ж паміж сабой вы абмяркоўваеце тое, што адбываецца ў краіне…**

– У нашым унутраным лёгкаатлетычным асяродку практычна не чула, каб хтосьці быў нязгодны з пазіцыяй тых, хто выступае супраць гвалту. Аднак не ўсе гатовы гэта публічна абмяркоўваць. Усё-такі ў іх страх за сябе і за сваё месца працы на першым месцы.

**– Старшыня Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі Вадзім Дзевятоўскі публічна выказаўся наконт таго, што "Лукашэнка – не мой прэзідэнт", але затым, што называецца, знік з радараў. Не ведаеце, што адбываецца?**

– Таксама спрабавалі высветліць гэта, але Дзевятоўскі пакуль не выходзіць на сувязь.

**– Надзея, чым вы зараз займаецеся апроч таго, што выказваеце сваю грамадзянскую пазіцыю?**

– Маю пэўныя асабістыя планы, хаця паўнавартасна ўжо не трэніруюся. На трэніроўкі хаджу больш для задавальнення і падтрымання формы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДОБРАЯ НАВІНА

## Чартары «Белавія» паляцяць у Балгарыю з 5 верасня

*Палёты па маршруце Мінск–Бургас стартуюць з 5 верасня. Пра гэта паведамляе прэс-служба "Белавія".*

Раней аб аднаўленні турыстычнай праграмы паведамілі ў Рэспубліканскім саюзе турыстычных арганізацый. Там распавялі, што кампаніі "Інтэрсіці" і "Ростинг" запускаюць у верасні тры рэйсы.

Дзякуючы рашэнню Міністэрства аховы здароўя Балгарыі турысты змогуць трапіць у гэтую краіну без тэстаў і каранціну.

Рэйсы з Мінска ў Бургас вылятаюць па наступным раскладзе:

***8–17 верасня*** (10 дзён / 9 начэй);

***17–26 верасня*** (9/10);

***26 верасня – 3 кастрычніка*** (8/7).

Віза для беларусаў будзе каштаваць 40 еўра для дарослых і 5 еўра для дзяцей да 12 гадоў.

СУМНЫЯ ЛІЧБЫ

## 691 чалавек памёр ў Беларусі ад COVID-19

*Такія лічбы прыводзіць Міністэрства аховы здароўя.*

Тых, хто хварэў на новы вірус і памёр, медыцынскае ведамства называе *"пацыенты з шэрагам хранічных захворванняў з выяўленай каранавіруснай інфекцыяй".*

Справіцца з хваробай атрымалася ў 70.900 пацыентаў.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Падпісана ў друк 03.09.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 040 экз. Заказ № 2340.